АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# МІКРАТАПАНІМІЯ БЕЛАРУСІ

## МАТЭРЫЯЛЫ

Выдавецтва «Навука і тэхніка»
Мінск 1974

Укладальнікі

Г. У. Арашонкава, Я. І. Грынавецкене, Ф. Д. Клімчук, А. А. Крывіцкі, С. Г. Лобач, Ю. Ф. Мацкевіч, А. М. Прышчэпчык, Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, Л. Ф. Шаталава, І. Я. Яшкін

Рэдактары

М. В. Бірыла, Ю. Ф. Мацкевіч

Рэцэнзенты

дактары філалагічных навук
А. П. Груцо, А. І. Жураўскі

М59 **Мікратапанімія Беларусі.** Матэрыялы. Рэд. М. В. Бірыла, Ю. Ф. Мацкевіч. Мн., «Навука і тэхніка», 1974.

328 с. (АН БССР. Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа). У перапл.

Праца з'явіцца крыніцай для сістэмнага даследавання словаўтваральных мадэлей, акцэнталогіі і этымалогіі на матэрыяле анамастыкі БССР у плане супастаўлення з адпаведнымі тапанімічнымі матэрыяламі славянскіх і балтыйскіх моў.

$М\frac{0713—089}{М316—74}52—74$ 4С(Бел)

# ПРАДМОВА

Мікратапаніміка па ступені распрацаванасці сваёй праблематыкі займае сціплае месца сярод іншых раздзелаў беларускай анамастыкі. На працягу двух апошніх дзесяцігоддзяў у сувязі з распрацоўкай розных аспектаў анамастыкі, са з'яўленнем грунтоўных прац па тапаніміцы, айканіміі, гідраніміі, геаграфічнай тэрміналогіі і антрапаніміі [1] значна ажывілася работа і па даследаванню беларускай мікратапаніміі [2].

Аднак вывучэнне мясцовых назваў дробных геаграфічных аб'ектаў у нашай рэспубліцы пакуль што знаходзіцца ў пачатковым стане. Яно праводзіцца пераважна ў напрамку збірання і сістэматызацыі фактычных матэрыялаў. У гэтай сувязі аддаецца вялікая ўвага вызначэнню прадмета і крыніц мікратапанімічных даследаванняў, методыцы фіксацыі назваў з вуснаў народа, выпрацоўцы адзінай праграмы [3]. Усе гэтыя пытанні ставяцца і вырашаюцца ў плане агульных задач тапанімічнай праблематыкі і адзіных метадалагічных прынцыпаў тапанімічных даследаванняў.

У 1967 г. была праведзена ў Мінску Першая беларуская тапанімічная канферэнцыя. У навукова-тэарэтычных дакладах канферэнцыі асвятляліся важнейшыя праблемы тапанімікі, яе сучасны стан, вызначаліся надзённыя задачы вывучэння тапанімікі на тэрыторыі Беларускай ССР. Матэрыялы канферэнцыі апублікаваны ў асобным зборніку. Ва ўступным артыкуле перад беларускімі тапаністамі ставіцца адна з чарговых задач: збор фактычнага матэрыялу, у якім як афіцыйная норма павінна быць адлюстравана сучасная беларуская форма тапоніма, якая існуе ў моўнай практыцы народа [4].

---

[1] В. А. Никонов. Введение в топонимику. М., 1955; В. Н. Топоров, О. Н. Трубачев. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962; В. А. Жучкевич. Происхождение географических названий Белоруссии. Минск, 1961; яго ж. Общая топонимика. Минск, 1968; Н. И. Толстой. Славянская географическая терминология. М., 1969; М. В. Бірыла. Беларуская антрапанімія. Мінск, 1966; яго ж. Беларуская антрапанімія. Мінск, 1969.

[2] «Беларуская лінгвістыка», вып. 3. Мінск, 1973, стар. 63—69.

[3] П. П. Шуба. Кароткі апытальнік па тапаніміцы. Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання абласных слоўнікаў. Мінск, 1959; Л. А. Акаловіч. Праграма па збіранню тапаніміі Беларусі. Мінск, 1966.

[4] В. А. Жучкевіч. Аб стане і бліжэйшых задачах тапанімікі ў БССР. Пытанні беларускай тапанімікі. Матэрыялы першай беларускай тапанімічнай канферэнцыі (1967). Мінск, 1970, стар. 5—16.

У апублікаваных матэрыялах ставіцца пытанне аб метадалагічных прынцыпах тапанімічных даследаванняў, падкрэсліваецца неабходнасць комплекснага падыходу, арганічнага спалучэння розных аспектаў даследавання, уліку геаграфічных і гістарычных дадзеных пры лінгвістычным аналізе тапонімаў, неабходнасць раскрыцця формы і зместу геаграфічных назваў, выяўлення агульных семантычных заканамернасцей тапанімікі [5].

Вывучэнне мікратапонімаў асобных раёнаў Беларусі праводзіцца ў лінгвістычным плане. У 1971 г. Я. М. Адамовіч выдаў працу «Мікратапанімічныя назвы», у якой даследаваў мікратапонімы паўднёвай ускраіны Мінскай вобласці з пункту погляду спосабу ўтварэння і характару ўтваральных асноў, правёў дакладнае размежаванне мікратапонімаў, утвораных семантычным, марфалагічным і сінтаксічным спосабам, вызначыў у працэнтных адносінах ступень пашырэння розных словаўтваральных тыпаў. Асобныя пытанні мікратапаніміі разглядаюцца таксама ў радзе яго артыкулаў [6].

Вывучэнню мікратапаніміі Стаўбцоўшчыны прысвечаны працы А. М. Прышчэпчык [7]. У іх коратка разглядаюцца пытанні, якія датычацца прадмета мікратапанімікі, яе праблематыкі і асноўных аспектаў даследавання ў нашай краіне і за мяжой, аналізуюцца словаўтваральныя сродкі і лексіка-семантычныя асновы мікратапонімаў. Паслядоўна праследжваецца, з якімі асновамі спалучаецца той ці іншы суфікс, выяўляюцца прадуктыўныя і непрадуктыўныя мадэлі і іх геаграфічнае размяшчэнне, устанаўліваюцца лексічны састаў і семантычныя класы апелятыўнай, антрапанімічнай і тапанімічнай лексікі, якая была выкарыстана пры ўтварэнні мікратапонімаў, а таксама выяўлена прадуктыўнасць у мікратапаніміі.

Працягваецца даследаванне мікратапанімікі Гомельшчыны [8] і Брэстчыны.

---

[5] В. А. Жучкевіч. Аб стане і бліжэйшых задачах тапанімікі ў БССР..., стар. 92—97.

[6] Е. А. Адамович. О суффиксальном способе образования географических названий Белоруссии (на материале Случчины). Всесоюзная конференция по топонимике СССР. Тезисы докладов и сообщений. Л., 1965; яго ж. Варианты названий и названия-ориентиры в микротопонимии Случчины. Микротопонимия. М., 1967; яго ж. Слуцкія тапанімічныя назвы ў форме множнага ліку. Материалы научно-теоретической конференции Минского педагогического института им. А. М. Горького. Минск, 1965; яго ж. Назвы урочышчаў дзеяслоўнага паходжання. Лінгвістычны зборнік. Мінск, 1968.

[7] А. М. Прищепчик. Микротопонимия Столбцовщины. Автореферат канд. дисс. Минск, 1970; яе ж. Прыназоўнікавыя канструкцыі ў мікратапаніміі Стаўбцоўшчыны. Лінгвістычныя даследаванні. Мінск, 1968; яе ж. Микротопонимы типа За ракой, Зарака, Зарэчча. Конференция по топонимике северо-западной зоны СССР. Рига, 1966; яе ж. Састаўныя мікратапонімы Стаўбцоўшчыны. Беларускі лінгвістычны зборнік. Мінск, 1966; яе ж. Мікратапонімы Стаўбцоўшчыны з суфіксамі *-шчына, -оўшчына, -еўшчына*. Першая беларуская анамастычная канферэнцыя. Мінск, 1967. Пытанні беларускай тапанімікі. Мінск, 1970.

[8] М. М. Карсакова. Прыназоўнікава-іменныя канструкцыі і суадносныя з імі прэфіксальныя ўтварэнні ў мікратапаніміі Гомель-

В. П. Лемцюгова ў анамастычнай працы таксама адводзіць значнае месца мікратапаніміцы[9].

Мікратапанімія асобнай вёскі разглядаецца ў артыкуле Г. Ф. Юрчанкі[10]. Аўтар даволі поўна сабраў і прааналізаваў назвы дробных геаграфічных аб'ектаў: шляхоў зносін, лясоў, урочышчаў, палёў, лугоў, балот і інш.

Лексіка-семантычны аналіз сабранага мікратапанімічнага матэрыялу праводзіцца ў цеснай сувязі з гістарычнымі падзеямі, з агульнымі сацыяльна-эканамічнымі пераўтварэннямі ў жыцці вясковага насельніцтва.

На базе мікратапаніміі аднаго населенага пункта аўтар раскрыў некаторыя агульныя заканамернасці тапанімічнай намінацыі: прынцыпы семантычнай матываванасці назваў, адлюстраванне ў назвах характэрных асаблівасцей прыродных умоў, расліннага і жывёльнага свету, эканамічных і культурных адносін. Аўтар пераканальна паказаў пераход старых назваў на новыя аб'екты. Так, новыя палі захавалі за сабой назву аб'екта папярэдніка.

Некалькі артыкулаў прысвечана мікратапаніміі Віленшчыны. В. Л. Вярэніч і А. Я. Янкоўскі разглядаюць мікратапанімію в. Адамчукі Вільнюскага раёна Літоўскай ССР[11]. Аўтары адзначаюць, што пераважная большасць мікратапонімаў утворана на славянскім моўным матэрыяле і не патрабуе тлумачэння.

Шляхам фармальнага і семантычнага аналізу ўстанаўліваюцца мікратапонімы літоўскага паходжання. Апіраючыся на лексіка-семантычную класіфікацыю, аўтары вызначылі прадуктыўныя тыпы назваў для дадзенай мясцовасці. Лексіка-семантычная структура мікратапонімаў раскрываецца ў сувязі з прыродна-геаграфічнымі, сацыяльна-эканамічнымі і грамадска-палітычнымі ўмовамі жыцця мясцовага насельніцтва.

Больш шырокую тэрыторыю даследуе Ю. Е. Русакевіч[12]. Ён разглядае 962 назвы, у тым ліку 656 тапонімаў, 205 мікратапонімаў і 101 гідронім, якія адносяцца да паўднёва-ўсходняй часткі Літоўскай ССР. З гэтай агульнай колькасці выдзяляюцца тапонімы літоўскага і польскага паходжання, якія разглядаюцца з боку словаўтваральных асноў і суфіксаў. Прыведзены цікавыя даныя аб колькасных суадносінах паасобных фармантаў, прадстаўленых у табліцах і дыяграмах.

Аналіз тапанімічных назваў дае ўяўленне аб характары засялення краю, аб нацыянальным складзе насельніцтва, аб моўных і этнічных адносінах на дадзенай тэрыторыі.

Айканіміі і мікратапаніміі Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці прысвечана некалькі артыкулаў І. Я. Яшкіна[13].

Вялікую цікавасць прадстаўляе кніга І. Я. Яшкіна «Беларускія геаграфічныя назвы» (1971), куды ўваходзяць не толькі тапонімы,

---

шчыны. Пытанні беларускай тапанімікі. Мінск, 1970; яе ж. Мікратапонімы Петрыкаўшчыны антрапанімічнага паходжання. Рэгіянальныя асаблівасці беларускай мовы, літаратуры і фальклору. Гомель, 1973.

[9] В. П. Лемцюгова. Беларуская айканімія. Мінск, 1970.

[10] Пытанні беларускай тапанімікі. Мінск, 1970, стар. 181—188.

[11] Там жа, стар. 123—133.

[12] Польские говоры в СССР, ч. 1. Минск, 1973, стар. 147—176.

[13] И. Я. Яшкин. Топонимика и микротопонимика Славгородчины (Могилевской области). Всесоюзная конференция по топонимике

але і шырока прадстаўлена апелятыўная лексіка, якая адлюстроўвае характэрныя асаблівасці прыродна-геаграфічных умоў Беларусі, яе ландшафт, раслінны і жывёльны свет. Асноўнай крыніцай працы паслужылі ўласныя запісы аўтара ў час дыялекталагічных экспедыцый, у якіх на працягу многіх гадоў І. Я. Яшкін прымаў актыўны ўдзел. Акрамя таго, шырока выкарыстаны слоўнікі, гістарычныя помнікі і часткова мастацкая літаратура. Аўтар меў на мэце стварыць па магчымасці поўны даведнік апелятыўнай лексікі ў выглядзе тлумачальнага слоўніка. Артыкулы слоўніка праілюстраваны аднакарэннымі тапонімамі і мікратапонімамі з Беларускай ССР і часта з іншых тэрыторый. Як вядома, многія з мясцовых геаграфічных тэрмінаў сталі ўласнымі назвамі населеных пунктаў, урочышчаў, прыродна-геаграфічныя ўмовы якіх з цягам часу істотна змяніліся, але па саміх назвах можна з пэўнай дакладнасцю акрэсліць тэрыторыю пашырэння ў мінулым пэўных парод дрэў, траў, жывёл, устанавіць наяўнасць карысных выкапняў.

Кожны слоўнікавы артыкул ілюструецца сінанімічнымі радамі мясцовай народнай тэрміналогіі. Зрэдку даюцца нетэрміналагічныя значэнні, якія дапамагаюць прасачыць шляхі станаўлення тэрміна, раскрыць яго значэнне. Кніга І. Я. Яшкіна атрымала станоўчую ацэнку ў крытычнай літаратуры.

Геаграфічнай тэрміналогіі ўсходняга арэала Украінскага Палесся прысвечана даследаванне Я. А. Чарапанавай[14]. У працы аналізуецца старанна сабраны вялікі фактычны матэрыял, раскрываецца семантыка геаграфічных апелятываў, іх словаўтваральная структура, устанаўліваюцца арэальныя адносіны мясцовай лексікі з лексікай суседніх тэрыторый. На шматлікіх картах ілюструецца геаграфічнае размяшчэнне асобных тэрмінаў і іх значэнняў, паказаны арэальна-ізаглосныя характарыстыкі геаграфічных назваў, выяўляюцца ўкраінска-беларускія і ўкраінска-рускія лексічныя сувязі. Так, шляхам супастаўлення даследуемай тэрміналогіі з адпаведнай беларускай аўтар прыходзіць да вываду, што больш за чвэрць усіх геаграфічных назваў Чарнігаўска-Сумскага Палесся ў ідэнтычным або блізкім значэнні пашырана і на беларускай тэрыторыі, асабліва многа адпаведнасцей у геаграфічнай тэрміналогіі Прыпяцкага Палесся і Чарнігаўска-Сумскага Палесся[15].

Падрыхтаваная супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства праца дапаўняе папярэднія публікацыі па мікратапаніміі Беларускай ССР як з боку фактычнага матэрыялу, так і часткова ў галіне даследавання адаптаваных мікратапонімаў балтыйскага паходжання.

---

СССР. Тезисы докладов и сообщений. Л., 1965; яго ж. Из истории развития топонимии Славгородчины. Конференция по топонимике северо-западной зоны СССР. Тезисы докладов и сообщений. Рига, 1966; яго ж. Гидронімы і мікратапонімы Слаўгарадчыны (басейн Сажа). Питання гідроніміки. Матеріали III Республіканської ономастичної наради. Київ, 1971.

[14] Е. А. Черепанова. Географическая терминология Черниговско-Сумского Полесья. Автореферат канд. дисс. Минск, 1973.

[15] Я. А. Чарапанава. Да праблемы беларуска-ўкраінскіх лексічных сувязей. Весці Акадэміі навук Беларускай ССР, серыя грамадскіх навук, 1973, № 2, стар. 113—120.

Як вядома, мікратапонімы ў сваёй пераважнай большасці паходзяць ад апелятыўнай лексікі, і з'яўляюцца яе састаўной часткай. Але гэта частка слоўнікавага фонду даволі своеасаблівая. Яе спецыфіка абумоўлена намінатыўнай функцыяй. Мікратапонімы не характарызуюць, а называюць прыродныя аб'екты. Прынцыпы адбору прыкметных адзнак, па якіх даецца тая ці іншая назва мясцоваму аб'екту, залежыць ад прыродных умоў, формы рэльефу, ад характару вытворчай і гаспадарчай дзейнасці і многіх іншых фактараў сацыяльнага і культурнага жыцця народа.

Мікратапонімы бытуюць у жывой мове, і таму яны шырока адлюстроўваюць фанетычныя і граматычныя асаблівасці народных гаворак. Па сваёй марфалагічнай структуры яны бываюць розныя. Вельмі часта ў функцыі назвы выступаюць апелятывы ў форме множнага ліку тыпу Выбаі, Лагі, Рагі, Аблогі, Калюгі, Верацеі, Разкі, Дубкі, Кленавікі, Асінавікі, Курганэ, Кустэ.

Да ліку прадуктыўных адносяцца мясцовыя назвы, што паходзяць ад прыналежных прыметнікаў, утвораных ад уласных імёнаў і прозвішчаў, а таксама і ад агульных назоўнікаў. Звычайна такія назвы ўжываюцца ў форме састаўной канструкцыі: Фадзеева Поле, Дзедава Ніва. Але пераважаюць простыя формы тыпу Алéшкава, Цішкава, Якýбава, Дýбаво. Характар канцавога галоснага суфіксальнага ўтварэння дазваляе вызначыць зыходную аднесенасць да назоўніка жаночага або ніякага роду: напрыклад, Зáйцава (ніва), Якýбаво (поле). Вызначэнне граматычнага роду па фанетычнаму абліччу назвы магчыма толькі ў окаючых гаворках і ў гаворках з няпоўным аканнем, у якіх адрозніваюцца ненаціскныя галосныя ў канцы слова. Мікратапонімы на *-ава* ў межах гаворак з поўным аканнем належаць да ніякага роду.

Сказанае адносіцца і да некаторых іншых мікратапонімаў адпрыметнікавага ўтварэння тыпу Крáсна, Тэ́мнэ, Дáльнэ, Шырокае, Муравінае.

Праца «Мікратапанімія Беларусі» ўключае матэрыялы, сабраныя ў 1948—1972 гг. Укладальнікі ставілі задачу выявіць і зрабіць даступным для даследчыкаў і наогул усіх, хто цікавіцца пытаннямі анамастыкі, мікратапанімічны матэрыял, накоплены ў пасляваенны перыяд. Частка мікратапонімаў сабрана ў сувязі з вывучэннем беларускіх народных гаворак — пры збіранні матэрыялу для Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы (ДАБМ), для Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа і для Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак. Зразумела, што ў залежнасці ад мэты, пастаўленай пры зборы матэрыялу, мікратапанімічны матэрыял запісаны і апрацаваны неаднолькава.

Найбольшая колькасць мікратапонімаў выкарыстана з матэрыялаў, сабраных для Атласа беларускай мовы, дакладней, з адказаў на 194 пытанне праграмы, якое было сфармулявана: «Запішыце мясцовыя назвы ўгоддзяў»[16]. Усяго з картатэкі Атласа выпісана 5500 мікратапонімаў. У пераважнай большасці выпадкаў яны абазначаюць назвы палявых угоддзяў: частак поля, сенажаці, пашы, аднак назва прыроднага аб'екта ў матэрыялах часта апушчана, таму

---

[16] Праграма па вывучэнню беларускіх гаворак і збіранню звестак для складання Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы. Мінск, 1950, стар. 92.

пры падачы такіх мікратапонімаў мы вымушаны былі абмежавацца агульным абазначэннем «урочышча» без канкрэтызацыі ўгоддзяў.

Прозвішчы ўсіх тых асоб, якія разам з дыялектнымі матэрыяламі сабралі і мясцовыя мікратапонімы, прыведзены ў выданні Атласа беларускай мовы [17].

Мікратапонімы, якія выкарыстаны з матэрыялаў ДАБМ, паспартызаваны ў адпаведнасці з адміністрацыйным падзелам, які існаваў да 1962 г. Акрамя таго, пасля назвы вёскі ў дужках прыводзіцца дадаткова лічбавы паказчык, што ўказвае, пад якім нумарам дадзены населены пункт значыцца на лінгвістычных картах ДАБМ, удакладняе яго геаграфію.

Значны матэрыял быў запісаны супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства ў час дыялекталагічных экспедыцый па Агульнаславянскаму лінгвістычнаму атласу і пазней, калі распачалася праца па Лексічнаму атласу беларускіх народных гаворак. У прыватнасці, выкарыстаны матэрыялы супрацоўнікаў сектара дыялекталогіі ў колькасці 2475 картак, у тым ліку матэрыялы Ф. Д. Клімчука складаюць 505 картак з Мінскай, Магілёўскай, Гомельскай, Гродзенскай і Брэсцкай абласцей. Матэрыялы С. Г. Лобач у колькасці 1200 картак прадстаўляюць мікратапонімы Барысаўскага, Бярэзінскага, Крупскага раёнаў Мінскай вобласці і часткова Бешанковіцкага, Докшыцкага, Шаркоўшчынскага і Шумілінскага раёнаў Віцебскай вобласці, а таксама Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Матэрыялы Ю. Ф. Мацкевіч — 700 назваў — запісаны ў Глыбоцкім раёне Віцебскай вобласці, Чэрвеньскім і Вілейскім раёнах Мінскай вобласці, Ашмянскім, Воранаўскім, Іўеўскім і іншых раёнах Гродзенскай вобласці, у Ганцавіцкім і Ляхавіцкім раёнах Брэсцкай вобласці, Рагачоўскім і Калінкавіцкім раёнах Гомельскай вобласці. Матэрыялы А. І. Чабярук — 140 назваў — сабраны ў Барысаўскім і Лагойскім раёнах Мінскай вобласці, а таксама ў Мастоўскім і Смаргонскім раёнах Гродзенскай вобласці. Каля 60 мікратапонімаў у час экспедыцыі 1972 г. запісала Я. М. Рамановіч у Гродзенскім раёне Гродзенскай вобласці і ў Чэрвеньскім раёне Мінскай вобласці.

Багаты тапанімічны матэрыял — 720 назваў — сабрала Л. Ф. Шаталава на працягу многіх год палявой работы ў розных раёнах Віцебскай, Мінскай, Гродзенскай, Брэсцкай і Гомельскай абласцей.

У час экспедыцыі 1972 г. і папярэдніх гадоў Г. У. Арашонкава запісала 233 мікратапонімы ў Зэльвенскім, Мастоўскім раёнах Гродзенскай вобласці, Нясвіжскім, Чэрвеньскім, Бярэзінскім і Старадарожскім раёнах Мінскай вобласці і Пінскім раёне Брэсцкай вобласці.

Праца ўключае каля 3000 мікратапонімаў Стаўбцоўскага раёна, выбраных А. М. Прышчэпчык з картатэкі, якая складзена ёю ў працэсе работы над кандыдацкай дысертацыяй.

Аб мікратапонімах Уздзеншчыны паведаміў Кандрат Кандратавіч Атраховіч.

Па некалькі дзесяткаў тапонімаў запісалі: М. Р. Суднік — у Ветрынскім раёне, І. І. Лучыц-Федарэц — у Полацкім раёне, М. Н. Крыўко — у Міёрскім раёне Віцебскай вобласці, А. К. Усціновіч — у Навагрудскім раёне Гродзенскай вобласці.

Значны тапанімічны матэрыял сабралі выкладчыкі і студэнты Брэсцкага педагагічнага інстытута ў розных раёнах Брэсцкай воб-

---

[17] ДАБМ. Мінск, 1963, стар. 44—171.

ласці. У дадзеную працу ўвайшлі матэрыялы П. А. Міхайлава — 689 назваў, В. М. Емельяновіч — 492, А. М. Захарэні — 182, П. І. Сігеды — каля 100 назваў.

Пад кіраўніцтвам загадчыка кафедры беларускай мовы Гродзенскага педагагічнага інстытута Т. Ф. Сцяшковіч студэнтамі — прадстаўнікамі розных абласцей і раёнаў — быў сабраны значны тапанімічны матэрыял, частка якога змешчана ў гэтым выпуску.

Настаўнікі А. К. Казлоўскі і Л. В. Ляшчова прыслалі мікратапонімы, запісаныя ў Рагачоўскім раёне Гомельскай вобласці.

Тапанімічныя матэрыялы з Ашмянскага, Воранаўскага і Іўеўскага раёнаў Гродзенскай вобласці атрыманы ад старшага навуковага супрацоўніка Інстытута мовы і літаратуры Акадэміі навук Літоўскай ССР Я. І. Грынавецкене, у агульнай колькасці каля 250 назваў.

І апошняя крыніца — гэта тапанімічныя матэрыялы, атрыманыя ад асобных карэспандэнтаў — супрацоўнікаў Акадэміі навук БССР, выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў, настаўнікаў, аспірантаў і студэнтаў. Так, аб мясцовых назвах асобных раёнаў паведамілі: У. Н. Жук, М. Т. Краўчук, В. П. Конан, М. Я. Рапіха (Драгічынскі р-н Брэсц. вобл.), І. М. Камендаў (Круглянскі р-н Маг. вобл.), В. М. Карнялюк (Брэсцкі р-н), М. В. Малько, Л. М. Салавей (Мядзельскі р-н Мін. вобл.), С. А. Новікаў (Чавускі р-н Маг. вобл.), М. А. Чобат (Скідальскі р-н Гродз. вобл.), В. В. Шапялевіч (Пінскі і Камянецкі р-ны Брэсц. вобл.) і некаторыя іншыя. Ад гэтых асоб запісана 345 мікратапонімаў. Збор матэрыялаў ад карэспандэнтаў правёў супрацоўнік сектара дыялекталогіі Ф. Д. Клімчук.

Найбольш поўна прадстаўлены мікратапонімы Брэсцкай вобласці, асобных раёнаў Мінскай і Гродзенскай абласцей. Усяго слоўнік уключае звыш дзевяці тысяч назваў.

У слоўніку мікратапонімы і ілюстрацыі да іх падаюцца спрошчанай транскрыпцыяй, але з захаваннем фанетычных і акцэнтуацыйных асаблівасцей мясцовага вымаўлення. Назвы размешчаны ў алфавітным парадку. Пасля загаловачнага слова ўказваецца граматычны род або памета *мн.*, калі назва мае форму множнага ліку, далей называецца прыродна-геаграфічны аб'ект, да якога адносіцца мікратапонім (поле, сенажаць, паша, лес, зараснік, прыродныя і штучныя вадаёмы і інш.). Запісаны ад мясцовага насельніцтва ілюстрацыйны матэрыял прыводзіцца з паметай (інфарм.). Да кожнага мікратапоніма даецца пашпарт: назва вёскі, раёна і вобласці, дзе запісаны матэрыял.

Варыянты назваў аднаго і таго ж аб'екта падаюцца ў алфавітным парадку са спасылкай на папярэднюю назву.

Да часткі мікратапонімаў прыведзены літоўскія паралелі.

Да мікратапонімаў славянскага паходжання адпаведнікі іншых славянскіх моў звычайна не прыводзяцца. Толькі да назваў, паходжанне якіх звязана з некаторымі балтыйскімі мовамі (пераважна з літоўскай), прыведзены паралельныя назвы з адпаведных моў у мэтах паказу геаграфіі і формазмянення мікратапонімаў.

Некаторыя беларускія назвы параўноўваюцца з фактамі балтыйскіх моў дзеля таго, каб паказаць, як славянскія мікратапонімы, што ўжываюцца ў балтыйскіх мовах, зноў запазычваліся беларускімі гаворкамі і якую форму яны набывалі (напрыклад, Падгае́лем, Падгрудзі́шкі і інш.).

Адпаведнікі да мікратапонімаў балтыйскага паходжання прыводзяцца з літоўскай, латышскай і прускай моў з улікам асаблівасцей фанетыкі, словаўтварэння і семантыкі гэтых моў. Пры гэтым улічваецца і фактар геаграфічнага пашырэння мікратапонімаў.

Да некаторых назваў прыводзяцца і германскія (пераважна нямецкія) паралелі.

У якасці балтыйскіх адпаведнікаў даюцца айконімы, гідронімы і антрапонімы, а таксама апелятывы, ад якіх яны ўтвораны, а ў якасці германскіх адпаведнікаў — толькі апелятывы нямецкага паходжання.

Прыведзеныя паралелі з іншых моў у пэўнай ступені будуць садзейнічаць больш глыбокаму вывучэнню пытанняў кантактавання славянскіх і балтыйскіх моў.

Этымалагічны каментарый да мікратапонімаў неславянскага паходжання падрыхтавала Я. І. Грынавецкене.

У канцы прыкладаецца адваротны слоўнік, які дае дакладнае ўяўленне аб словаўтваральнай структуры мікратапонімаў.

Мікратапанімічны матэрыял, змешчаны ў гэтай працы, сабралі: Г. У. Арашонкава, К. К. Атраховіч, М. В. Бірыла, Я. І. Грынавецкене, В. М. Емельяновіч, У. Н. Жук, А. М. Захарэня, А. К. Казлоўскі, І. М. Камендаў, В. М. Карнялюк, Ф. Д. Клімчук, В. П. Конан, М. Т. Краўчук, М. Н. Крыўко, С. Г. Лобач, І. І. Лучыц-Федарэц, Л. В. Ляшчова, М. В. Малько, Ю. Ф. Мацкевіч, П. А. Міхайлаў, С. А. Новікаў, А. М. Прышчэпчык, Я. М. Рамановіч, М. Я. Рапіха, Л. М. Салавей, В. А. Санько, П. І. Сігеда, М. Р. Суднік, Т. Ф. Сцяшковіч, М. А. Тычына, А. К. Усціновіч, А. І. Чабярук, М. А. Чобат, В. В. Шапялевіч, Л. Ф. Шаталава.

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

Даль — В. Даль. Толковый словарь живого великорусского языка, тт. I—IV. М., 1955.

К. Буга — K. Būga. Rinktiniai raštai. Vilnius, I, 1958, II, 1959, III, 1961.

КЛГН — Картатэка літоўскіх геаграфічных назваў (Інстытут літоўскай мовы і літаратуры АН Літоўскай ССР).

КЛП — Картатэка літоўскіх прозвішчаў (Інстытут літоўскай мовы і літаратуры АН Літоўскай ССР).

ЛАГВП — В. Н. Топоров, О. Н. Трубачев. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962.

LUEV — Lietuvos TSR upių ir ežerų vardynas. Vilnius, 1963.

М. Бір. БА — М. В. Бірыла. Беларуская антрапанімія. 1. Мінск, 1966; 2, 1969.

СЛМ — Lietuvių kalbos žodynas. Vilnius, I (II leid.), 1968, II (II leid.), 1969, III, 1956, IV, 1957, V, 1959, VI, 1962, VII, 1966, VIII, 1970, IX, 1973.

Яшк.— І. Я. Яшкін. Беларускія геаграфічныя назвы. Мінск, 1971.

E. Fr. LEW — E. Fraenkel. Litauisches etymologisches Wörterbuch. Göttingen, 1962.

Акц.— Акцябрскі
Арш.— Аршанскі
Асіп.— Асіповіцкі
Астр.—Астравецкі
Ашм.—Ашмянскі
Бабр.— Бабруйскі

Бар.— Баранавіцкі
Барыс.— Барысаўскі
Бер.— Бераставіцкі
Беш.— Бешанковіцкі
Браг.— Брагінскі
Брасл.— Браслаўскі
Брэсц.— Брэсцкі
Б.-Каш.— Буда-Кашалёўскі
Быx.— Быхаўскі
Бял.— Бялыніцкі
Бяроз.— Бярозаўскі
Бярэз.— Бярэзінскі
Валож.— Валожынскі
Ваўк.— Ваўкавыскі
В.-Дзв. Верхнядзвінскі
Ветк.— Веткаўскі
Віл.— Вілейскі
Віц.— Віцебскі
Вор.— Воранаўскі
Выс.— Высокаўскі
Ганц.— Ганцавіцкі
Гарад.— Гарадоцкі
Гарадз.— Гарадзішчанскі
Глыб.— Глыбоцкі
Гом.— Гомельскі
Гор.— Горацкі
Гродз.— Гродзенскі
Дзярж.— Дзяржынскі
Дзятл.— Дзятлаўскі
Добр.— Добрушскі
Докш.— Докшыцкі
Драг.— Драгічынскі
Др.— Дрысенскі
Дубр.— Дубровенскі
Езяр.— Езярышчанскі
Жаб.— Жабінкаўскі
Жалуд.— Жалудоцкі
Жлоб.— Жлобінскі
Жытк.— Жыткавіцкі
Зэльв.— Зэльвенскі
Ів.— Іванаўскі
Івац.— Івацэвіцкі
Івян.— Івянецкі
Іўеў.— Іўеўскі
Калінк.— Калінкавіцкі
Кам.— Камянецкі
Камар.— Камарынскі
Кап.— Капыльскі
Капатк.— Капаткевіцкі
Кар.— Карэліцкі
Карм.— Кармянскі
Касц.— Касцюковіцкі
Кір.— Кіраўскі
Клім.— Клімавіцкі
Кліч.— Клічаўскі
Кобр.— Кобрынскі
Красн.— Краснапольскі
Кругл.— Круглянскі
Круп.— Крупскі
Крыв.— Крывіцкі
Крыч.— Крычаўскі
Лаг.— Лагойскі
Лагіш.— Лагішынскі
Лельч.— Лельчыцкі
Леп.— Лепельскі
Лёзн.— Лёзненскі
Лід.— Лідскі
Лоеў.— Лоеўскі
Лун.— Лунінецкі
Люб.— Любанскі
Лях.— Ляхавіцкі
Маг.— Магілёўскі
Маз.— Мазырскі
Маладз.— Маладзечанскі
Малар.— Маларыцкі
Маст.— Мастоўскі
Міёр.— Міёрскі
Мін.— Мінскі
Мсцісл.— Мсціслаўскі
Мядз.— Мядзельскі
Нав.— Навагрудскі
Нар.— Нараўлянскі
Нясв.— Нясвіжскі
Паст.— Пастаўскі
Петр.— Петрыкаўскі
Пін.— Пінскі
Пл.— Пліскі
Плешч.— Плешчаніцкі
Пол.— Полацкі
Пруж.— Пружанскі
Пух.— Пухавіцкі
Рагач.— Рагачоўскі
Рад.— Радунскі
Рас.— Расонскі
Руж.— Ружанскі
Рэч.— Рэчыцкі
Саліг.— Салігорскі
Светл.— Светлагорскі
Свісл.— Свіслацкі
Сен.— Сенненскі
Скід.— Скідальскі
Слаўг.— Слаўгарадскі
Сл.— Слонімскі
Слабодка Зал.— Слабодка Залужскага сельсавета
Слабодка Літ.— Слабодка Літвенскага сельсавета
Смал.— Смалявіцкі

Смарг.— Смаргонскі
Ст.-дар.— Старадарожскі
Староб.— Старобінскі
Стаўбц.— Стаўбцоўскі
Стол.— Столінскі
Тал.— Талачынскі
Тур.— Тураўскі
Увар.— Уваравіцкі
Уздз.— Уздзенскі
Уш.— Ушацкі
Хойн.— Хойніцкі
Хоц.— Хоцімскі
Цер.— Церахоўскі
Чав.— Чавускі
Чач.— Чачэрскі
Чэрв.— Чэрвеньскі
Чаш.— Чашніцкі
Шарк.— Шаркоўшчынскі
Шкл.— Шклоўскі
Шум.— Шумілінскі
Шчуч.— Шчучынскі

## СЛОЎНІК МІКРАТАПОНІМАЎ

### А

АБАЛО′НЁ *н.* урочышча. Кожава (447) Кар. Гродз.

АБАЛО′НКА *ж.* урочышча. Струпень (253) Барыс. Мін.

АБАЛО′ННЕ *н.* сенажаць. Казлы Міёр. Віц., Лапічы (523) Асіп. Маг.

АБАЛО′ННЯ *н.* сенажаць каля рэчкі. Рыбчына Віл. Мін., Сяляўшчына Рас. Віц.; урочышча. Якушонкі (96) Езяр. Віц.

А′БАЛЯВА ЛУКА′ *ж.* урочышча. Багушэвічы (511) Бярэз. Мін.

АБВА′ЛЬНЯ *ж.* урочышча. Завад Віравая (623) Слаўг. Маг.

АБЕ′ЛЬКАЎКА *ж.* сенажаць. Мачаск Бярэз. Мін.

АБІСІ′НІЯ *ж.* поле. Стары Свержань Стаўбц. Мін.

АБЛО′ГА *ж.* урочышча. Ухвала (289) Круп. Мін., Старакожаўка (336) Гор. Маг.

АБЛО′ГІ *мн.* урочышча. Дзераўное (439) Івян. Мін.

АБЛО′Ш *ж.* урочышча. Старая Каменка (630) Слаўг. Маг.

АБЛУ′КВА *ж.* старыца на Людзвікове. Чудзін Ганц. Брэсц.

АБО′ЛІШКІ *мн.* поле каля вёскі Аболішкі. Ялуцавічы Бар. Брэсц.; параўн. літ. прозвішча Obolỹs і апелятыў obolỹs ’яблык’+ +суф. -iški; параўн. яшчэ ўтварэнне са славянскім суфіксам -цы. Абольцы Тал. Віц.

АБО′РА *ж.* поле. Заазер’е Віл. Мін.; урочышча. Загалле (825) Люб. Мін.

АБО′РКІ *мн.* поле. Мікалаеўшчына (450), Сверынава Стаўбц. Мін.; сенажаць, абвораная з усіх бакоў. Мікалаеўшчына Стаўбц. Мін.; лес Сверынава Стаўбц. Мін.; урочышча Курына (127) Віц.; частка вёскі Чудзіна. Паводле падання, на тым месцы быў бор, у якім было многа дзікіх пчол, людзі абіралі мёд (інфарм.). Чудзін Ганц. Брэсц.

АБО′РЫК *м.* урочышча. Галышана (320) Гор. Маг.

АБРУ′БКА *ж.* поле. Там быў княжы лес, засяліліся бегляцэ разнае нацыі, пачалі разрабляць палянкі, а князь абрубіў, абвёў капцамі лес (інфарм.). Дзяніскавічы Ганц. Брэсц.

АБРУБО′К *м.* сенажаць. Рудня Астравітая Чэрв. Мін.

АБРЫ′ВЫ *мн.* урочышча. Дзягілёва (112) Беш. Віц.

АБРЭ′ЗАВА *н.* поле. Савані Стаўбц. Мін.

АБРЭ′ЗЫ *мн.* урочышча. Ноў (Ушыўка) (134) Лёзн. Віц.

АБРЭ′ЧКІ *мн.* сенажаць. Сяляўшчына Рас. Віц.

АБСЕ′КА *ж.* урочышча. Вольніца (816) Глускі Маг.

АБСЕ′КІ *мн.* урочышча. Чудзін (752) Ганц. Брэсц.

АБУ'ХАЎКА *ж.* урочышча. Слаўкавічы (823) Глускі Маг.
АБУХО'ЎКА *ж.* урочышча. Сарочына (81) Уш. Віц.
АБЫТО'К *м.* сенажаць. Міхалёва Бярэз. Мін.
АБЫТО'КІ *мн.* сенажаць. Сверынава Стаўбц. Мін.
АБЫТО'ЧАК *м.* балота. Сверынава Стаўбц. Мін.
АВЕ'ЧЫ ТАРЖО'К *м.* поле. Янкавічы Стаўбц. Мін.
АВІ'НЦЫ *мн.* лес. Шавярнічы Бярэз. Мін.
АГАРО'ДНЯЯ ЗЯМЛЯ' *ж.* поле. Дудкі Стаўбц. Мін.
АГАРО'ДЧЫКІ *мн.* паша. Ждановічы Стаўбц. Мін.
АГАРО'ДЫ *мн.* поле. Дудкі, Аколава Стаўбц. Мін.; сенажаць. Камейшы Стаўбц. Мін., Міратычы Кар. Гродз.; сенажаць і паша. Брухачы Стаўбц. Мін.; урочышча. Свяцілавічы (420) Бар. Брэсц., Загалле (825) Люб. Мін.
АГЕ'ЕВА ДЗЯЛЯ'НКА *ж.* поле, сенажаць і пасаджаны лес. Белавічы Бярэз. Мін.
АГЕЕ'НКАВЫ КУСТЫ' *мн.* зараснік на месцы былога хутара. Мішневічы Шум. Віц.
АГ'Е'ЛІК *м.* азярынка. Бліска Кудры луг Агелік (інфарм.). Вострава Маст. Гродз.; параўн. літ. Ãgela 'назва месца ў Курскім заліве'.
АГЕ'ЯВА *н.* тарфянішча. Шасціснопы Чэрв. Мін.
АДА'МАВЫЕ *мн.* балоты. Дзяніскавічы Ганц. Брэсц.
АДА'МАЎ ЛЕС *м.* лес. Дзяніскавічы Ганц. Брэсц.
АДА'МАЎШЧЫЗНА *ж.* частка вёскі. Граўжышкі Ашм. Гродз.
АДАМО'НЯ ПЛЯЦ *м.* поле. Старыя Смільгіні Вор. Гродз.; параўн. літ. прозвішча Adamónis (КЛП).
АД АПЕ'ЧАК *мн.* поле. Семенчыцы Стаўбц. Мін.
АД ГА'ЛА *н.* урочышча. Сувіды (1023) Камар. Гом.
АД ГАСЦІ'НЦА *м.* поле. Белькаўшчына. Стаўбц. Мін.
АД ГАЦІ'СКАГА ЛЕ'СУ *м.* поле. Трылес. Стаўбц. Мін.
АД ДАРО'ГІ *ж.* поле. *Янкавічы.* Стаўбц. Мін.
АДДЗЯЛЕ'ННЕ *н.* поле, лес і пасёлак, аддзеленыя рэчкай ад астатняй часткі тэрыторыі вёскі (інфарм.). Вялікая Сліва Слуцкі Мін.
АДЗІ'ШНАВА *н.* урочышча. Пронькі (160) Мядз. Мін.
АДО'ЛЕВЕЦЬ *м.* сенажаць. Слабада Стаўбц. Мін.; параўн. імя Адоль, літ. Adòlinos хутар у Шырвінцкім р-не.
АДО'НАК *м.* урочышча. Гаруны (120) Езяр. Віц.
АДО'ЧАРАП *м.* паша. Аколава Стаўбц. Мін.
АДРЫ'НІШЧА *н.* поле. Ніўнае Стаўбц. Мін.; сенажаць. Ціханава Слабада Стаўбц. Мін.; паша. Ніўнае Стаўбц. Мін.
АДРЫ'НІШЧЫ *мн.* поле і паша. Засулле Стаўбц. Мін.
АДРЫ'НКА *ж.* урочышча. Загалле (825) Люб. Мін.
АДСЕ'КА *ж.* лес калісь быў (інфарм.). Струкачоў (603) Карм. Гом.
АД СЦЕ'НКІ *ж.* поле. Сценка — дарога (інфарм.). Янкавічы Стаўбц. Мін.
АДЦЭ'ДКА *ж.* поле каля вёскі Адцэда (інфарм.). Слабада Стаўбц. Мін.
АЖАКО'Ў ДОЛ *м.* урочышча. Парэчча (350) Гродз.
АЖАРЭ'ЙЦІ *мн.* поле, дзе калісь было возера, якое высахла, сцякло, па рэчцы пашло (інфарм.). Старыя Смільгіні Вор. Гродз.

Назва паходзіць ад літ. дыял. Ažaráičiai (КЛГН), літар. Ežeráičiai<
<ežeráičiai.

АЖЛУГЕ'ЛЬ *м.* сенажаць. Гудзяняты Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Ažlugẽlis 'т. с.' (КЛГН)<ažlugẽlis 'месца за лужком'.

АЖО'ЎШЧЫНА *ж.* поле. Янкавічы Стаўбц. Мін.

АЖУ'БРАДЗЬ *ж.* поле. Вольдзікі Іўеў. Гродз.; паша. Гудзяняты Іўеў. Гродз.; параўн. літ. дыял. Ažûbradzis 'т. с.', літар. Ažûbradis, якое паходзіць ад апелятыва ažûbradis 'заброддзе'.

АЖУ'ДАРЖ *м.* сенажаць. Гудзяняты Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Ažûdaržis 'т. с.'<ažûdaržis 'месца за агародам'.

АЖУ'КАЛЬНЯ *ж.* балота. Вайнюнцы (8) Брасл. Віц.; поле. Жылі Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Ažûkalnė назва поля, назва даліны (КЛГН). Назва складаецца з прыстаўкі ažu- 'за-'+kálnas 'гара'.

АЖУ'КАПІНЯ *ж.* поле. Гудзяняты, Вольдзікі Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Ažûkapinis і Ažûkapiniai 'т. с.'<ažûkapiniai 'за могілкамі'.

АЖУ'КЕЛЯ *ж.* сенажаць. Шашкі Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Ažûkelė 'т. с.'<ažûkelė 'месца за дарогай'.

АЖУ'ПАЛЯКА *ж.* балота. Вайнюнцы (8) Брасл. Віц. Можна меркаваць, што назва складаецца з літ. прыстаўкі ažu- 'за-' і асновы -паляка; параўн. літ. Palėkiai назва вёскі (КЛГН), бел. прозвішча Паляк (М. Бір. БА, 2, 313).

АЖЫ'НІКА *ж.* поле. Тульгавічы Хойн. Гом.

АЗАРА'НАК *м.* лес. Навасёлкі Свісл. Гродз.

АЗА'РАЦКІЯ ЧВЁРТКІ *мн.* урочышча. Азаркі-Пудавінка (161) Мядз. Віц.

АЗЕ'РАЦ *м.* урочышча. Пузыры (198) Крыв. Мін.

АЗЕ'РНІЦА ж. урочышча. Нагародавічы (403) Дзятл. Гродз.

АЗЁРКА *н.* возера. Саламір'е Пол. Віц.

АЗЁРЫ *мн.* азёры і сенажаць. Стары Востраў (518) Кліч. Маг.

АЗРЫ'ЧАЎ *м.* урочышча. Халопенічы (824) Глускі Маг.

АЗЯРКІ' *мн.* урочышча. Рамальдава (300) Арш. Віц.

АЗЯРО' *н.* урочышча. Гаруны (120) Езяр. Віц.

АЗЯРО'Т *м.* лес. Дзяніскавічы (751) Ганц. Брэсц.

АЗЯРО'ЦКАЯ ВЫ'ГАРКА *ж.* сенажаць, балота. Ворань (87) Леп. Віц.

АЗЯРЦО' *н.* сенажаць. Рудня Чэрв. Мін.

АЗЯРШЧЫ'НА *ж.* лес. Міратычы Кар. Гродз., Савані Стаўбц. Мін.

АЗЯРЫ'НА *ж.* азярцо. Насалі Стаўбц. Мін.; балота. Дразды Стаўбц. Мін.; поле. Варнавугал Стаўбц. Мін.; сенажаць. Новы Свержань Стаўбц. Мін.

АЗЯРЫ'НКА *ж.* невялікае азярцо. Палік Барыс. Мін.

АЗЯРЫ'СКО *н.* урочышча. Палонка (387) Свісл. Гродз.

АЗЯРЫ'ШЧА *н.* сенажаць. Старынкі (431) Івян. Мін., Дразды Стаўбц. Мін.; сенажаць, на якой ёсць азярыны (інфарм.). Касцюкі Стаўбц. Мін.; сенажаць каля возера. Рубяжэвічы Стаўбц. Мін.; поле. Касцюкі, Рубяжэвічы Стаўбц. Мін.; поле, дзе было возера. Беразіно Докш. Віц.; лес і сенажаць. Пятрылавічы Стаўбц. Мін.

АЗЯРЫ'ШЧО *н.* урочышча. Іванкавічы (416) Бар. Брэсц.

АЗЯРЭ'ДЗІШЧЭ *н.* урочышча. Фаставічы (833) Капатк. Гом.

АКІ'НЧЫЦЫ *мн.* сенажаць недалёка ад вёскі Акінчыцы. Слабада Стаўбц. Мін.

АКЛІ'Ш *м.* урочышча. Таль (781) Люб. Мін.; параўн. літ. Ãklys назва возера (LUEV, 2) <ãklas 'сляпы'.

АКО'ЛАЎШЧЫНА *ж.* поле і лес. Калісь усё гэта належала Акалоўскаму (інфарм.). Чудзін Ганц. Брэсц.

АКО'ЛІЦА *ж.* урочышча. Грыцавічы (349) Свісл. Гродз.

АКО'НІЦКАЕ *н.* урочышча. Ета када швецка вайна була, там коньмі ехалі (інфарм.). Пасека (815) Ст.-дар. Мін.

АКО'ПА *ж.* урочышча. Рудня Ветчынская (836) Жытк. Гом.

АКО'ПНАЯ *ж.* поле, там былі акопы выкапаны (інфарм.). Галубаўшчына (34) Брасл. Віц.

АКО'ПЫ *мн.* поле. Шашкі Стаўбц. Мін.; лес. Заазер'е Віл. Мін.

АКО'РКАЎШЧЫНА *ж.* поле. Навасёлкі Свісл. Гродз.

АКСЁНАВА ЛУКА' *ж.* азярцо. Вяззе Бярэз. Мін.

АКУ'ЛІНА *ж.* сенажаць. Навасёлкі Свісл. Гродз.

АЛЕКСАНДРО'ВА *н.* частка вёскі. Гнецькі Стаўбц. Мін.; поле, што належала калісь Аляксандраву (інфарм.). Скарынкі Бар. Брэсц.

АЛЕ'ША *ж.* сенажаць. Налібакі Стаўбц. Мін.

АЛЕ'ШКАВА *н.* лес і былы маёнтак. Даўнаршчына Стаўбц. Мін.

АЛЕ'ШКАЎКА *ж.* поле. Зяневічы Стаўбц. Мін.

АЛЕ'ШНІК *м.* лес уздоўж ракі Дзеравянкі. Тартакі Бар. Брэсц.; лясок. Стральцы Гродз.; лес. Навасёлкі Бярэз. Мін.; кусты. Баравікі, Галавенчыцы Стаўбц. Мін.; паша. Гілёўка, Насалі Стаўбц. Мін.; паша і кусты. Брухачы, Стары Свержань Стаўбц. Мін.; сенажаць. Нясвіж Мін.; сенажаць каля алешніку (інфарм.). Гнецькі, Кнотаўшчына Стаўбц. Мін.; урочышча. Гараўцы (72) Пл. Віц.; Старынкі (431) Івян. Мін.

АЛЕ'ШНІКІ *мн.* сенажаць. Дзяўгі Стаўбц. Мін.

АЛЁКСІХА *ж.* урочышча. Дзевятні (170) Смарг. Гродз.

АЛЁН *м.* урочышча. Клінок (885) Калінк. Гом.; параўн. літ. Ãlys назва возера (LUEV, 4) <alèti 'цячы'; Aliónys назва вёскі (КЛГН).

АЛЁНЫ *мн.* сенажаць. Журоўка Бярэз. Мін., гл. АЛЁН.

АЛЁС *м.* балота. Купіск Нав. Гродз.; забалочанае месца. Азершчына (909) Рэч. Гом.; урочышча. Ліцвінавічы (601) Карм. Гом., Струкачоў (603) Карм. Гом.

АЛІСЕ'ЕЎШЧЫНА *ж.* урочышча. Барыскавічы (889) Маз. Гом.

АЛІХО'ВІЦА *ж.* балота ў лесе, дзе расце алешнік (інфарм.). Рудня Астравітая Чэрв. Мін.

АЛІХО'ЎКА *ж.* лес. Крэчаты Стаўбц. Мін.

АЛЬЖБЕ'ТКА *ж.* лес. Мярэцкія Глыб. Віц.

АЛЬСА' *ж.* сенажаць каля поля. Міхалева Бярэз. Мін.; параўн. літ. Alsà назва ракі (LUEV, 5).

АЛЬХІ'МАЎКА *ж.* рэчка. Заазер'е Віл. Мін.

АЛЬХО'ВА *н.* урочышча. Нагуевічы (421) Слон. Гродз.

АЛЬХО'ВАЯ *ж.* урочышча. Закапыцце (935) Добр. Гом.

АЛЬХО'ВЕЦ *м.* балота. Там расце альха (інфарм.). Вераб'і Пол. Віц.

АЛЬХО'ВІЦ *м.* урочышча. Сухары (572) Чав. Маг.

АЛЬХО'ВЫ ЛУГ *м.* азярына, якая даходзіць да Валожынскага р-на. (інфарм.). Бакшты Іўеў. Гродз.

АЛЬХО'ЎКА *ж.* урочышча. Аляксейкі (329) Дубр. Маг., Старынкі (431) Івян. Мін.

АЛЬХО'ЎШЧЫНА *ж.* урочышча. Паляшыцы (332) Гор. Маг.

АЛЬША' *ж.* урочышча. Лаўніца (256) Барыс. Мін.; параўн. літ. Alšià назва ракі (LUEV, 5).

АЛЬШО'ЎКА *ж.* урочышча. Ялавец (645) Хоц. Маг.

АЛЬШЭ'ЎСКІ *м.* лес. Мыслабаж Лях. Брэсц.

АЛЯКО'ВА *н.* балота гразкае. Дзяніскавічы Ганц. Брэсц.

АЛЯКО'Ў *м.* лес быў, цяпер кусты (інфарм.). Дзяніскавічы Ганц. Брэсц.; параўн. імя Аляксей (М. Бір. БА, 1, 24—26).

АЛЯКСЕ'ЯВА БАЛО'ТА *н.* балота. Новая Дзярэўня (565) Бабр. Маг.

АЛЯКСЕ'ЯЎКА *ж.* урочышча. Сценкі (193) Докш. Віц.

АЛЯНДЭ'РНЯ *ж.* лес. Купіск Нав. Гродз.

АМША'НЫ *мн.* поле. Мікалаеўшчына (450) Стаўбц. Мін.

АМША'Р *м.* лес. Грынёўка, Налібакі Стаўбц. Мін.; лес і поле. Зяневічы Стаўбц. Мін.; кусты. Ячнае Стаўбц. Мін.

АМША'РА *ж.* лес. Казлы Міёр. Віц.; урочышча. Слабада (241) Круп. Мін.

АМША'РНІКІ *мн.* поле. Зяневічы Стаўбц. Мін.

АМШАРО'К *м.* поле. Янкавічы Стаўбц. Мін.

АМША'РЫ *мн.* балота і курганы. Баранаўшчына (25) Брасл. Віц.; лес. Груздава Паст. Віц.

АМША'РЫНА *ж.* балота. Заазер'е Віл. Мін.; лясочак. Паметнікі (70) Пол. Віц.

АМШАРЫ'НА *ж.* лес. Трылес Стаўбц. Мін.; балота ў лесе. Рыбчына Віл. Мін.; поле і кусты. Семенчыцы Стаўбц. Мін.

АНБРО'С *м.* сенажаць заліўная. Беразіно Докш. Віц.

АНДА'ТКІ *мн.* урочышча. Дрочава (531) Асіп. Маг.

АН ДРАБУЛЮ' *м.* балота. Старыя Смільгіні Вор. Гродз. Назва паходзіць ад літ. дыял. прыназоўнікавай канструкцыі an drabulių, Ant drebulių 'дрыгвяністае месца' (КЛГН).

АНДРАТО'ВІНА *ж.* урочышча. Маскалі (374) Жалуд. Гродз.

АНДРО'НАЎ *м.* лес. Барыскі Лаг. Мін.

АНДРО'НАЎКА *ж.* урочышча. Слабада (241) Круп. Мін.

АНДРУХО'ВО *н.* балота. Радзеж Малар. Брэсц.

АНДРЭ'ЕЎШЧЫНА *ж.* сенажаць заліўная. Абухава Беш. Віц.

АНДРЭ'СК *м.* урочышча. Халопенічы (824) Глускі Маг.

АНІ'САВА КРЫНІ'ЦА *ж.* балота. Тульгавічы Хойн. Гом.

АНІ'СЬКАВА *н.* урочышча. Буда Грэская (491) Уздз. Мін.

А'НІЧКАЎ УГО'Л *м.* урочышча. Няклюдава (273) Тал. Віц.

АНСКЛІ'Н *м.* балота, зарослае алешнікам. Старыя Смільгіні Вор. Гродз.; параўн. літ. Ankslýnas 'т. с.' (КЛГН) < ankslýnas 'алешнік'.

АНТО'НАЎСКІЯ *мн.* урочышча. Шыхаў (898) Жлоб. Гом.

АНТОНІ'ВСЬКЭ *н.* лес. Радванічы Брэсц.

АНТО'НІХА *ж.* сенажаць пад Хвашчоўку ў Валожынскім р-не (інфарм.). Бакшты Іўеў. Гродз.

АНТО'НОВКА *ж.* урочышча. Хмелева (661) Кам. Брэсц.

АНТО'НЧЫКАЎ ПАЦЕРАБО'К *м.* сенажаць. Ніўнае Стаўбц. Мін.

АНЮХО'ЎШЧЫЗНА *ж.* поле. Відэйшы Ашм. Гродз.

АПАДКА'ЛНА *ж.* урочышча за гарой. Купчэлі (7) Брасл. Віц.; відаць, утворана шляхам спалучэння славянскай прыстаўкі под- > >пад- і літ. апелятыва kalnas гара

АПА'ЛІ *мн.* балота. Граўжышкі Ашм. Гродз.; параўн. літ. Apãlių kálnas назва гары, Apalaĩ назва сенажаці, Apalãjus 'т. с.' (КЛГН). Назва паходзіць ад літ. ãpalias<ãpvalias 'круглы'.

АПЕ'ННІЦА *ж.* урочышча. Лазы (271) Тал. Віц.

АПЕ'ЦКІЯ ГО'РЫ *мн.* лес, які расце на гарах недалёка ад вёскі Апечкі (інфарм.). Ячнае Стаўбц. Мін.

АПІТА' *ж.* рэчка і вёска. Апіта Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Arytà назва рэчкі (LUEV, 7), назва складаецца з літ. кораня ар-+суф. -yta (гл. К. Буга, II, 321, 322).

АПУ'ДЗІЛО *н.* поле, плахое поле, цяпер так назвалі (інфарм.). Пасека. Ст.-дар. Мін.

АПУШЫ'Н *м.* поле. Лаздуны, Жыдзевічы Іўеў. Гродз.; лес. Шашкі Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Apušýnas 'т. с.'<apušė 'асіна', у спалучэнні з -ynas 'асіннік'.

АПЧУ'ЛІН *м.* лес. Белічаны Бярэз. Мін.; поле. Клёнаўка Бярэз. Мін.

АРАБІ'ННІ ЛОГ *м.* урочышча. Іванкавічы (416) Бар. Брэсц.

АРАДРО'М *м.* урочышча. Сычык (614) Крыч. Маг.

АРАДЫ' *мн.* поле за гумнамі. Старыя Смільгіні Вор. Гродз.; паходзіць ад слова гароды з адпадзеннем пачатковага *г* і перамяшчэннем націску на апошні склад.

АРАНО'Е *н.* затока каля Дняпра ў раёне Рагачова (інфарм.). Рагачоў Гом.

АРАСА' *ж.* урочышча. Таль (781) Люб. Мін.

АРДЫ'НЦАВА ВО'ЗЕРА *н.* возера. Каля яго жыў Ардынцаў (інфарм.). Вераб'і Пол. Віц.

АРЖА'ЎКА *ж.* урочышча. Баяры (195) Мядз. Мін.

АРЛЕ'ЙСКАЕ АЗЯРО' *н.* возера. Арлея (94) Пол. Віц.

АРЛЕ'Я *ж.* лес, які знаходзіцца каля вёскі Орля. Старыя Смільгіні Вор. Гродз.; параўн. літ. Arlėja 'т. с.', Erla назва рэчкі (КЛГН); магчыма, паходзіць ад літ. ar̃lyti, ar̃lioti 'рыць' або ад слав. арол.

АРЛО'ЎКА *ж.* сенажаць. Бягомль Докш. Віц.

АРЛО'ЎСКІЕ *мн.* лес вялікі. Калісь там вадзіліся арлы (інфарм.). Чудзін Ганц. Брэсц.

АРЛЯ'НСКІ ЛЕС *м.* гл. АРЛЕ'Я.

АРТУКО'ЎСКАЯ ПО'ЛЯ *н.* поле. Холмеч Рэч. Гом.

АРУ'ЖАЙ *м.* сенажаць. Альхоўка Нав. Гродз.

АРУ'ШКІ *мн.* урочышча. Бабраўнікі (165) Астр. Гродз.

АРХІ'ПАВА ЛУКА' *ж.* сенажаць каля ракі. Рудня Астравітая Чэрв. Мін.

АРХІ'ПАЎШЧЫНА *ж.* урочышча. Пушкі (293) Лёзн. Віц.

АРЦЁМІШЧА *н.* поле. Дзмітравічы Бярэз. Мін.

АРЭ'ПІШЧЭ *н.* урочышча. Хвойня (832) Капатк. Гом.

АРЭ'СКАЎШЧЫНА *ж.* урочышча. Іванава (459) Нясв. Мін.

АРЭ'ХАЎКА *ж.* урочышча. Касілавічы (473) Дзярж. Мін.

АРЭ'ШКАЎСКІ СТАРЫ'К *м.* пратока ад ракі Бярэзіны. Жукавец Бярэз. Мін.

АРЭ'ШНІК *м.* кусты. Дразды Стаўбц. Мін.; поле. Горкі Стаўбц. Мін., Журоўка Бярэз. Мін.; санажаць. Скамарошкі Стаўбц. Мін., паша. Найдзёнавічы Стаўбц. Мін.; урочышча. Парэчча (350) Гродз.

АСАВЕ'Ц *м.* поле. Дзяніскавічы Ганц. Брэсц., Альхоўка Нав. Гродз.; урочышча ля вытоку ракі Друць. Азяраны Рагач. Гом.

АСАВІ'НА *ж.* палянка, на якой быў хутар (інфарм.). Караліна Докш. Віц.

АСАВІ'ЦА *ж.* азярына, праточны вадаём; Асавіца — гэта частка лугу, які ўпадае ў Валожынку (інфарм.). Рум. Валож. Мін.; параўн. літ. Asỹs назва азёр, Asínis, Asavà назвы ракі, Ã̄savas назва возера (LUEV, 8), параўн. яшчэ гідронімы Осевка, Осовка, Освица, якія разглядаюцца ў сувязі з літ. Ašvà<ašvà 'кабыла'. (Гл. В. Н. Топоров и О. Н. Трубачев. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962, 200).

АСАЎЦЫ' *мн.* поле. Хатава Стаўбц. Мін.

АСЕ'К *м.* паша. Драздьі Стаўбц. Мін.

АСЕ'ЛІЦА *ж.* поле. Семенчыцы, Шашкі Стаўбц. Мін., Бягомль Докш. Віц.; сенажаць. Варапаі, Янкавічы Стаўбц. Мін.; паша. Варнавугал, Касцюкі Стаўбц. Мін.; выган. Аксакаўшчына (464) Мін.; поплаў каля вёскі. Апечкі Стаўбц. Мін.; сенажаць і балота. Рыбчына Віл. Мін.; сенажаць каля агародаў. Навасёлкі Мядз. Мін.; прысядзібная сенажаць. Гайна Лаг. Мін.; месца за вёскай каля рэчкі. Зашчэслі (49) Пл. Віц.; дарожка. Дзяўгі Стаўбц. Мін.; урочышча. Казяны (13) Брасл. Віц., Малае Жэжліна (228) Леп. Віц., Дзяляцічы (396) Нав. Гродз., Літва (435) Івян. Мін., Куклічы (673) Свісл. Гродз., Галік (711) Івац. Брэсц.; азярына. Гэты луг, што ходзім купацца, называем Аселіца (інфарм.). Вострава Маст. Гродз.

АСЕ'ЛІЦЫ *мн.* сенажаць. Гнецькі Стаўбц. Мін.

АСЕ'ЛІШЧА *н.* сенажаць. Старынкі (431) Івян. Мін.; поле. Дзяўгі Стаўбц. Мін.

АСЕ'ЛЬЦА *н.* хутар на месцы былой вёскі (інфарм.). Зазыбы (135) Віц.

АСЕ'НІШЧА *н.* урочышча. Падневічы (427) Івян. Мін.

АСЕ'ННІКІ *мн.* лес. Рос такі асеннік (інфарм.). Пасека (815) Ст.-дар. Мін.

АСЕ'НЧЫК *м.* поле. Папарна Круп. Мін.

АСЕ'ЦКАЕ ВО'ЗЕРА *н.* возера. Беразіно Докш. Віц.

АСЕ'ЧКА *ж.* урочышча. Старая Каменка (630) Слаўг. Маг.

АСЕ'ЧНАЯ *ж.* поле. Драздьі Стаўбц. Мін.

АСЁКЛІНА *ж.* сенажаць. Вольдзікі Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Asiū̃klinė<asiū̃klinė<asiū̃klis 'хвошч'.

АСЁЛАЧКА *ж.* сенажаць. Ністанішкі Смарг. Гродз.

АСІ'МАЎКА *ж.* поле. Цеснавая Стаўбц. Мін.

АСІ'НА *ж.* поле і невялікі асінавы лясок, размешчаны сярод гэтага поля. Палолі кукурузу ў Асіне (інфарм.). Сенькавічы Івац. Брэсц.

АСІ'НАВА *н.* урочышча. Майсеевічы (530) Ст.-дар. Мін.

АСІ'НАВА ГАРА' *ж.* урочышча. Лазы (271) Тал. Віц.

АСІ'НАВІКІ *мн.* урочышча. Вуглы (429) Івян. Мін.

АСІ'НАЎКА *ж.* лес яловы і хваёвы, відаць, раней быў асінавы (інфарм.). Гарбавічы Чав. Маг.; поле. Мураж (30) Брасл. Віц.; урочышча. Стайкі (62) Др. Віц.

АСІ'НАЎКІ *мн.* урочышча. Вольніца (816) Глускі Маг.

АСІ'НАЎСКІ СТАН *м.* лес. Гарунь Бярэз. Мін.

АСІ'НКІ *мн.* урочышча. Добры Бор (705) Бар. Брэсц.; возера. Шавярнічы Бярэз. Мін.

АСІ'ННІК *м.* лясок асінавы сярод поля. Татаршчына Стаўбц. Мін.; лясок невялікі, многа кустоў. Ціханава Слабада Стаўбц. Мін.;

зараснік. Ячонка Стаўбц. Мін.; поле. Былі раней асіны (інфарм.). Літва Стаўбц. Мін.; поле. Папарна Круп. Мін., Княжацкая Слабада (997) Хойн. Гом.; лес і поле. Якушонкі (96) Езяр. Віц.; балота. Любкаўшчына Стаўбц. Мін.; урочышча. Пустаселле (230) Докш. Віц., Расна (270) Сен. Віц., Бабінавічы (298) Лёзн. Віц., Паплавы (509) Бярэз. Мін., Шыхаў (898) Жлоб. Гом., Гурыны (996) Маз. Гом.

АСІ'ННІКІ *мн.* лес. Мікалаеўшчына Стаўбц. Мін.; поле. Рудня Чэрв. Мін.; урочышча. Заспа (915) Рэч. Гом.

АСІ'НУВА *ж.*, *н.* урочышча. Ялавец (645) Хоц. Маг. параўн. літ. Asýnas (КЛГН) < asȳs 'хвошч'.

АСІ'ПАЎ РАЖО'К *м.* урочышча. Ламавічы (831) Акц. Гом.

АСКІНЕ'ЎШЧЫНА *ж.* поле. Варапаі Стаўбц. Мін.

АСМО'ЛАВО *н.* балота і сенажаць. Навасёлкі Свісл. Гродз.

АСНІ'К *м.* лес. Дзяніскавічы Ганц. Брэсц.

АСНЯ'К *м.* кусты. Аталезь Стаўбц. Мін.; паша Асіпаўшчына Стаўбц. Мін.

АСНЯКІ' *мн.* поле. Залужжа, Вічатарова Стаўбц. Мін.

АСОВЕ'Ц *м.* урочышча. Залессе (839) Капатк. Гом.

АСО'ВЫЕ *мн.* сенажаць. Там восы водзяцца (інфарм.). Чудзін Ганц. Брэсц.

АСО'ВЫ ЛУГ *м.* кусты алешніку на месцы былога лесу (інфарм.). Стральцы Гродз.

АСО'ВЫЯ РО'ГІ *мн.* сенажаць і балота. Дзераўная Стаўбц. Мін.; поле. Налібакі Стаўбц. Мін.

АСО'ЎЦЫ *мн.* поле. Журавок Бярэз. Мін.

АСТАЛО'ПІХА *ж.* урочышча. Залессе (104) Пол. Віц.

АСТА'ПАВА *ж.*, *н.* лес. Заазер'е Віл. Мін.

АСТА'ШАЧКІ *мн.* урочышча. Дамуці (153) Паст. Віц.

АСТРАВІ'ЗІНЬ *м.* лес. Сяляўшчына Рас. Віц.

АСТРАВІ'ШЧА *н.* урочышча. Слаўкавічы (823) Глускі Маг.

АСТРАВО'К *м.* поле і сенажаць. Варацішча Стаўбц. Мін.; поле і лес. Мурава Бярэз. Мін.; лес і палянка. Булаўкі Калінк. Гом.; лес, поле і паша. Запольцы Стаўбц. Мін.; паша. Новая Вёска Стаўбц. Мін.; урочышча. Пустаселле (230) Докш. Віц., Ухвала (289) Круп. Мін., Ачыжа (516) Чэрв. Мін., Галік (711) Івац. Брэсц., Слаўкавічы (823) Глускі Маг.

АСТРАВЫ' *мн.* лес. Саламір'е Пол. Віц.; урочышча. Баннікі (119) Езяр. Віц.

АСТРАВЭ' *мн.* балота. Купіск Нав. Гродз.

АСТРАЖО'ВО *н.* урочышча. Рудня Гарбавіцкая (887) Калінк. Гом.

АСТРАЛЦЫ' *мн.* поле. Пятрылавічы Стаўбц. Мін.; лес. Цеснавая Стаўбц. Мін.; лес і сенажаць. Пятрылавічы Стаўбц. Мін.

АСТРА'ЎЕ *н.* урочышча. Хвойня (832) Капатк. Гом.

АСТРАЎКІ' *мн.* поле. Забалоцце (471) Мін., Варацішча Стаўбц. Мін.; узгоркі сярод балота. Чудзін Ганц. Брэсц.

АСТРАЎЦО' *н.* сенажаць. Галавенчыцы Стаўбц. Мін.

АСТРАЎЦЫ' *мн.* поле. Цеснавая Стаўбц. Мін., Дзевятні Смарг. Гродз.; сенажаць. Курачкі Стаўбц. Мін.; паша. Цеснавая Стаўбц. Мін.; урочышча. Дзевятні (170) Смарг. Гродз.

АСТРО'ВАК *м.* поле і кусты. Гарунь Бярэз. Мін.

АСТРО'Ў *м.* сенажаць. Бабінавічы (298) Лёзн. Віц.; урочышча. Мачулішчы (243) Круп. Мін.

АСТРО'ЎКІ *мн.* урочышча. Чыжуны (136) Рад. Гродз.
АСТРЫ'НКА *ж.* урочышча. Кірпічоўшчына (356) Шчуч. Гродз.
АСТУПЕ'Ц *м.* лес сярод балота. Чудзін Ганц. Брэсц.
АСТУ'ПІШЧЫНА *ж.* лес і балота. Рыбчына Віл. Мін.
АСТУ'ПЫ *мн.* лес паміж двух балот. Чудзін Ганц. Брэсц.
АСЦЕ'Ц *м.* поле і сенажаць. Галавенчыцы Стаўбц. Мін.
АСЦЯРО'Б *м.* сенажаць. Рыбчына Віл. Мін.
АСЬМІ'НКІ *мн.* поле. Скідаль Гродз. Так калісь называлі поле бедных гаспадароў (інфарм.). Вострава Маст. Гродз.
АСЬМУ'ХІ *мн.* поле. Янкавічы Стаўбц. Мін.
АСЯНО'Ў *м.* поле. Папарна Круп. Мін.
АСЯРО'ДАК *м.* поле. Негертава, Шахноўшчына Стаўбц. Мін.
АСЯЦІ'ШЧА *н.* урочышча. Казыры (213) Лаг. Мін.
АТВЕ'РНІЦА *ж.* сенажаць. Тульгавічы Хойн. Гом.; заліўная сенажаць. Беразіно Докш. Віц.
АТМЕ'Н *м.* урочышча. Папарна Круп. Мін.
АТО'ЖАЛЬНІК *м.* хмызняк. Граўжышкі Ашм. Гродз.; параўн. бел. атожылак, літ. Atóžalnikas назва поля і сенажаці, Atóžalas назва поля, Atoželỹnė назва кустоў (КЛГН); atãžalas 'парасnік'.
АТО'ПКАВО *н.* лес. Тульгавічы Хойн. Гом.
АТО'ЧЫЦА *ж.* поле за рэчкай. Рудня Чэрв. Мін.
АТРАХІ'МАЎ БОК *м.* сенажаць і лес паўз рэчку Кляву. Калісь належала Атрахіму (інфарм.). Мачаск Бярэз. Мін.
АТСЕ'КІ *мн.* урочышча. Ходцы (258) Сен. Віц.
АЎГУСТО'ВА ГАРА' *ж.* урочышча. Трыбухі (26) Міёр. Віц.
А'ЎКШТАКЕЛЬ *м.* поле. Пеляса Вор. Гродз. Назва паходзіць ад літ. Áukštakelis<áukštakelis<áukštas+kẽlias (КЛГН).
АЎСЕІ' *мн.* поле, дзе быў хутар. Мішневічы Шум. Віц.
АЎСЕ'ЙЧЫКАВА ЛУКА' *ж.* поле. Семенчыцы Стаўбц. Мін.
АЎСЯ'НІКІ *мн.* поле. Лапічы (523) Асіп. Маг.
АЎСЯ'НІШЧА *н.* поле. Стары Свержань, Шашкі Стаўбц. Мін.
АЎТУХО'ВА ПАЛЯ'НА *ж.* поле, якое калісь разрабіў Аўтух (інфарм.). Гарунь Бярэз. Мін.
АЎЦЮХО'Ў *м.* поле і балота, якое працягваецца аж да Клічаўскага р-на (інфарм.). Журавок Бярэз. Мін.
АЎЦЯРЭ'БЯНЬ *ж.* поле. Дзяніскавічы (751) Ганц. Брэсц.
АЎЧЫ'НКАВА *ж., н.* урочышча. Слабада (83) Уш. Віц.
АЎЧЫ'ХІ *мн.* поле. Дзяніскавічы (751) Ганц. Брэсц.
АХО'ННЯ *ж.* поле і лес. Дзмітравічы Бярэз. Мін.; балота. Міхеевічы Бярэз. Мін.
АХРУЗЛО'ВО *н.* сенажаць. Навасёлкі Свісл. Гродз.
АХРЭ'МАЎСКІЯ НАВО'ЗЫ *мн.* поле. Вязавец Стаўбц. Мін.
АХРЭ'МАЎ УБО'РАЧАК *м.* поле. Рудня Чэрв. Мін.
АХРЭ'МАЎ УЦЁС *м.* лес. Міхеевічы Бярэз. Мін.
АЦЦЁСЫ *мн.* лес. Саламір'е Пол. Віц.
АШМАРКІ' *мн.* поле. Ніўнае Стаўбц. Мін.
АЭРАДРО'М *м.* поле. Заказель Драг. Брэсц.

## Б

БА'БА *ж.* урочышча. Лунін (766) Лун. Брэсц.
БАБА' *ж.* балота. Лахаўка Лун. Брэсц.
БАБАЕ'Д *м.* сенажаць. Мсцісл. Маг.

КЛА'ДКІ *мн.* поле. Кучкуны Стаўбц. Мін.; сенажаць. Дзяўгі Стаўбц. Мін.; паша. Слабодка Зал. Стаўбц. Мін.; балота, дзе ёсць вокны (інфарм.). Журавок Бярэз. Мін.

КЛАДО'ВАЯ *ж.* вуліца каля могілак. Вялікая Сліва Слуцкі Мін.

КЛАДЫ' *мн.* частка вёскі каля могілак. Вялікая Сліва Слуцкі Мін.

КЛЕВІРІ'ШЧА *н.* урочышча. Халмы (574) Чав. Маг.

КЛЕДКІ' *мн.* урочышча. Хвойня (832) Капатк. Гом.

КЛЕНАВІКІ' *мн.* урочышча. Слаўкавічы (823) Глускі Маг.

КЛЕПЕ'ЛЬ *м.* поле. Посалі Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Kliepẽlis 'т. с.', Kliẽpis назва балота, Kliẽpė назва даліны (КЛГН).

КЛЕ'ТАЎШЧЫНА *ж.* поле. Дзярэчынцы Стаўбц. Мін.

КЛЕ'ТКА *ж.* поле, дзе калісь быў лес. Дзяніскавічы Ганц. Брэсц.; поле, невялікія кавалкі. Пасека (815) Ст.-дар. Мін., Стары востраў (518) Кліч. Маг.

КЛЕ'ТКІ *мн.* поле і хутары. Калі дзялілі зямлю, заставаліся кавалкі. Квадратныя і прамавугольныя называліся клеткамі, часамі заставаліся кліны. Гэтыя астаткі пасля раздавалі сялянам. Звычайна яны былі далёка ад асноўнага надзелу (інфарм.). Засулле Стаўбц. Мін.; урочышча. Калюціна (59) Рас. Віц., Алексенічы (267) Сен. Віц.

КЛЕТЭ'НЬСКІ БРЭД *м.* лес. Азарычы Пін. Брэсц.

КЛЕ'ЎНЯ *ж.* сенажаць на высокім месцы. Журоўка Бярэз. Мін.

КЛЕ'ЦІШЧЫ *мн.* лес. Шасціснопы Чэрв. Мін.

КЛЕ'ШЧА *ж.* поле. Сітніца (805) Лун. Брэсц.

КЛЕШЧО'ВШЧЫНА *ж.* поле. Мазуры Кобр. Брэсц.

КЛЕ'ШЧЫЦЫ *мн.* поле і лес. Мікалаеўшчына Стаўбц. Мін.

КЛЕ'ШЧЫЧЫ *мн.* поле. Аталезь Стаўбц. Мін.

КЛЁН *м.* урочышча. Загалле (825) Люб. Мін.

КЛЁНАЎКА *ж.* лес і рэчка. Клёнаўка Бярэзн. Мін.

КЛЁНЫ *мн.* поле і часткі вёскі. Гошава Драг. Брэсц.

КЛІКУ'Н *м.* поле. Папарна Круп. Мін.

КЛІ'МАЎШЧЫНА *ж.* лес, дзе жыў ляснік Клімаў (інфарм.). Чудзін Ганц. Брэсц.

КЛІМА'ЦІНО *н.* балота. Стары Лепель (227) Леп. Віц.

КЛІМІ'ХІНА *ж.* урочышча. Рамальдава (300) Арш. Віц.

КЛІ'МКІ *мн.* поле і сенажаць. Жыцькава (247) Барыс. Мін.; урочышча. Сычык (614) Крыч. Маг.

КЛІМО'ЎШЧЫНА *ж.* поле, дзе жыў Клімовіч. Цеплень (477) Уздз. Мін.

КЛІН *м.* поле. Осава Стаўбц. Мін., Нясвіж Мін., Ліпск Кругл. Маг., Азарычы (725) Лагіш. Брэсц., Пружанка Бярэз. Мін.; урочышча. Якубова (55) Рас. Віц., Беражно (445) Кар. Гродз., Вольніца (816) Глускі Маг., Грэбень (846) Жытк. Гом.; лес. Стаўпы Бярэз. Мін.

КЛІНАВА'ТАЕ *н.* поле. Рыгораўшчына (37) Шарк. Віц.

КЛІ'НАВІЧЫ *мн.* урочышча. Гарадзец (84) Уш. Віц.

КЛІ'НАВЫ ЯЖЭ'ВІЧ *м.* лес. Відэйшы Ашм. Гродз.

КЛІНКІ' *мн.* урочышча. Шчарбіцкія (71) Пл. Віц.

КЛІНО'К *м.* поле і сенажаць. Заазер'е Віл. Мін.; паша. Шахноўшчына Стаўбц. Мін.; поле. Арцюхі Стаўбц. Мін.

КЛІНЫ' *мн.* поле. Гічыцы Івац. Брэсц., Жыдзевічы Іўеў. Гродз.; паша. Шахноўшчына Стаўбц. Мін.; сенажаць. Вольдзікі Іўеў. Гродз.

КЛІНЭ' *мн.* урочышча. Іванава (459) Нясв. Мін., Здудзічы (865) Светл. Гом.

КЛІ'ШАЎКА *ж.* сенажаць. Закаблукі (466) Мін.

КЛІ'ШЧЫ *мн.* урочышча. Варатынічы (694) Кобр. Брэсц.

КЛО'БУК *м.* балота. Радзеж Малар. Брэсц.; урочышча. Дзякавічы Жытк. Гом.

КЛОКО'ВА *ж.* частка вёскі. Заяленне Драг. Брэсц.

КЛОНЕ'ЛЬ *м.* сенажаць. Старыя Смільгіні Вор. Гродз.; параўн. літ. Klonẽlis 'т. с.' (КЛГН); назва паходзіць ад klonẽlis 'лажок'.

КЛО'НІ *мн.* паша. Лаздуны Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Klonė̃s назва даліны (КЛГН); назва паходзіць ад klonė̃ 'даліна'.

КЛОНІ'ЦІ *мн.* сенажаць. Старыя Смільгіні Вор. Гродз.; параўн. літ. Klonýtės 'т. с'. (КЛГН); назва паходзіць ад klonýtės 'лажкі'.

КЛО'ЦІШЧА *н.* поле. Даўляды (1011) Нар. Гом.

КЛОЧКО'ВЭ *н.* урочышча. Турная (723) Івац. Брэсц.

КЛУ'НІШЧА *н.* урочышча. Кармазы (814) Ст.-дар Мін.; параўн. літ. klúonas 'гумнішча'.

КЛУ'ОНІ *мн.* поле. Салтанішкі Вор. Гродз.; параўн. літ. Klúonai 'т. с.' (КЛГН); назва паходзіць ад klúonai 'гумны'.

КЛЫБА'НІЯ *ж.* поле, дзе калісь была сядзіба ксяндза (інфарм.). Брашэвічы Драг. Брэсц.

КЛЫКНЫ'Й *м.* сенажаць. Ласінцы Драг. Брэсц.

КЛЫН *м.* поле. Мацы Кобр. Брэсц., Сіманавічы Драг. Брэсц., Вярхі (692) Кам. Брэсц.

КЛЫНКЫ' *мн.* поле, падзеленае дарогай на кліны. Сычы Брэсц.

КЛЫНОВСЬКО'Е БОЛО'ТО *н.* сенажаць. Сіманавічы Драг. Брэсц.

КЛЫНО'К *м.* поле, якое мела форму кліна. Дубіца Брэсц., Асаўляны Драг. Брэсц.

КЛЫНЫ' *мн.* поле. Мазуры Кобр. Брэсц.

КЛЫЧКІВШЧЫ'НА *ж.* урочышча. Хмелева (661) Кам. Брэсц.

КЛЫЧЭ'ВА *ж.* балота. Худлін Кобр. Брэсц.

КЛЭТЭ'ШЧЭ *н.* урочышча. Замосце (955) Кобр. Брэсц.

КЛЮКО'ЎСКІЕ *мн.* урочышча. Хвойня (832) Глускі Маг.

КЛЮЧ *м.* поле. Вялікае Малешава Стол. Брэсц.

КЛЮЧА'ТКІ *мн.* сенажаць у пойме Кублі. Навасёлкі Мядз. Мін.

КЛЮ'ШНАЯ *ж.* урочышча. Рагатка (245) Барыс. Мін.

КЛЯБА'НІШЧА *н.* поле. Варапаі Стаўбц. Мін.

КЛЯВА' *ж.* рэчка, левы прыток Бярэзіны. Мачаск Бярэз. Мін.; параўн. літ. Klẽvas назва возера (LUEV, 221), Klevà назва рэчкі (LUEV, 76), Klevijà назва сенажаці (КЛГН); назва паходзіць ад klẽvas 'клён'.

КЛЯЖЫ' *мн.* урочышча. Калюціна (59) Рас. Віц.

КЛЯК *м.* балота. Дарапеевічы Малар. Брэсц.

КЛЯННЁ *н.* поле паміж узгоркамі і рэчкай. Гарбавічы Чав. Маг.; урочышча. Казімірова (95) Пол. Віц.

КЛЯПО'К *м.* поле і лес. Налібакі Стаўбц. Мін.

КЛЯПО'НСКІЯ ПАЛЯ' *мн.* поле. Саланое Віл. Мін. Магчыма, назва паходзіць ад літ. апелятыва klipõnas 'крывы'; параўн. klypúoti 'кульгаць'.

КЛЯПТО'ЎКА *ж.* урочышча. Рамальдава (300) Арш. Віц.
КЛЯ'ПЧЫК *м.* поле. Глівін Барыс. Мін.
КЛЯРЫ'НДА *ж.* урочышча. Хвасты (9) Брасл. Віц.
КЛЯТНА'Я *ж.* лес. Гошчава Івац. Брэсц.
КЛЯЦО'ЎКА *ж.* урочышча. Камарычы (593) Бых. Маг.
КЛЕЦЯ'ЧАЕ *н.* пойма Дняпра на поўдзень ад Рагачова. Рагачоў Гом.
КЛЯШЧЭ'ЎСКАЯ *ж.* урочышча. Бяляеўка (925) Чач. Гом.
КНІЖА' *ж.* поле. Паложына Бярэз. Мін.
КНЯЖ *м.* лес. Там растуць ягады, грыбы (інфарм.). Ізбынь (919) Хойн. Гом.
КНЯ'ЖАЦКАЕ *н.* поле і сенажаць. Дзярэчынцы Стаўбц. Мін.
КНЯ'ЖАЦКІ ЛЕС *м.* лес. Галавенчыцы Стаўбц. Мін.
КНЯЖА'Я ГАРА' *ж.* балота. Там паляваў калісь князь Радзівіл (інфарм.). Чудзін Ганц. Брэсц.
КНЯЖО'Ё *н.* урочышча. Мікалаеўшчына Стаўбц. Мін.
КНЯЖО'ЎКІ *мн.* поле. Старына Стаўбц. Мін.
КНЯЖО'ЎШЧЫНА *ж.* урочышча. Кайшоўкі (446) Кар. Гродз.
КНЯЗЬ-БРОД *м.* брод на дарозе. Журоўка Бярэз. Мін.
КНЯ'ЗЯЦКІ ЛЕС *м.* лес. Варнавугал Стаўбц. Мін.
КОБЫ'ЛЯЧЫЕ ГО'ЛОВЫ *мн.* урочышча. Букча (975) Тур. Гом.
КО'ВАЛЕВО *н.* лес, дзе трымаў пчол вясковы каваль (інфарм.). Чудзін. Ганц. Брэсц.
КОВАЛЁВЭ *н.* поле, дзе жыў каваль. Галоўчыцы Драг. Брэсц.
КОВАЛІ'ВШЧЫНА *ж.* лес невялікі. Дзеткавічы Драг. Брэсц.
КОВАЛІ'ЦЬКЭ *н.* поле, дзе працавалі сяляне з вёскі Кавалікі (інфарм.). Лумна Кам. Брэсц.
КОВА'ЛЬСКА У'ЛІЦА *ж.* вуліца. Сялец Бяроз. Брэсц.
КОГУЦЁК *м.* поле. Бастынь Лун. Брэсц.
КОЖУ'Х *м.* лес вельмі густы, нават днём там змрочна (інфарм.). Малінаўка Малар. Брэсц.
КОЗА' *ж.* поле. Шумакі Брэсц.
КОЗАКІ'ВКА *ж.* урочышча. Добрае (702) Кобр. Брэсц.
КОЗЕ'ЛЕЦ *м.* поле. Сінкевічы Лун. Брэсц.
КОЗЕ'ЧЫН *м.* урочышча. Старыя Пескі (721) Бяроз. Брэсц.
КОЗЁЛ *м.* урочышча. Маньчыцы (981) Лельч. Гом.; поле. Бастынь Лун. Брэсц.
КОЗІ'НЕЦ *м.* поле. Вулька Дастоеўская Драг. Брэсц.
КОЗІ'НІЦА *ж.* поле. Даўляды (1011) Нар. Гом.
КО'ЗІНО *н.* балота. Лахаўка Лун. Брэсц.
КОЗЛІ'ХА *ж.* урочышча. Ляскавічы (848) Петр. Гом.
КОЗЛІ'ШЧА *н.* сенажаць. Сялец Бяроз. Брэсц.
КОЗЛО'ВА ГОРА' *ж.* узвышша. Там знаходзяць каменныя прылады працы (інфарм.). Каўняцін Пін. Брэсц.
КОЗЛО'ВО *н.* урочышча. Плоскінь (760) Лагіш. Брэсц.
КОЗЛУ'ЎКА *ж.* лес. Трасцянка Пін. Брэсц.
КОЗЛЫ' *мн.* урочышча. Махнавічы (982) Ельскі Гом.
КОЗЛЫ'ВКА *ж.* урочышча. Якоўчыцы (695) Кам. Брэсц.
КОЗЫ'НЦІ *мн.* частка вёскі. Сіманавічы Драг. Брэсц.
КО'ЗЫР *м.* поле. Мыслабаж Лях. Брэсц.
КО'ЗЫЦЫ *мн.* паляна. Брады (683) Пруж. Брэсц.
КО'ЙДАНАЎКА *ж.* дарога. Татаршчына Стаўбц. Мін.
КО'КАЦЬ *м.* сенажаць і балота. Бягомль Докш. Віц.
КОКО'ШНЫЙ ЛУГ *м.* сенажаць. Бялынь Ласінскі Драг. Брэсц.

КО'ЛАС *м.* урочышча. Забаб'е (897) Б.-Каш. Гом.

КО'ЛАЦКІ *м.* сенажаць каля ракі. Чэрнеўка Барыс. Мін.

КО'ЛЕВА КРЫНІ'ЦА *ж.* урочышча, названае ў гонар хлопчыка Колі, які здзейсніў патрыятычны пастулак (інфарм.). Белавуша Стол. Брэсц.

КОЛЕДІ'НСКОЕ *н.* поле. Бастынь Лун. Брэсц.

КОЛЕ'ЙКА *ж.* дарога. Ніколі була колейка, і возілі по ій торф на вагонетках (інфарм.). Лунін Лун. Брэсц.

КОЛЕНЕ'Ц *м.* поле. Бастынь Лун. Брэсц.

КО'ЛЕСО *н.* балота. Турная (723) Івац. Брэсц.

КОЛО БЛІНДАЖА' *м.* поле. Турная (723) Івац. Брэсц.

КОЛО'ДА *ж.* поле. Субаты Драг. Брэсц.; сенажаць. Сітніца (805) Лун. Брэсц.

КОЛОДЕЗЫ'ЦКЫЙ *м.* урочышча. Купяцічы (769) Пін. Брэсц.

КОЛО'ДНІЦА *ж.* урочышча. Махнавічы (982) Ельскі Гом.

КОЛО КАНА'ВУ (у<ы) *ж.* балота. Елна Лун. Брэсц.

КОЛО КІ'ЗЯ *м.* поле, на якім стаіць дом Кізя (інфарм.). Лунін Лун. Брэсц.

КОЛО КО'ШАЧЫ *ж.* сенажаць. Горск Бяроз. Брэсц.

КОЛОТО'ЎКА *ж.* поле. Бастынь Лун. Брэсц.

КОЛО ТРАХНЯКА' *м.* поле, дзе жыве Трахняк (інфарм.). Лунін Лун. Брэсц.

КОЛО'ЦКА гл. КОЛО'ЦКАЯ.

КОЛО'ЦКАЯ *ж.* поле. Бастынь Лун. Брэсц.

КОЛО'ШВА *ж.* урочышча. Дубай (773) Стол. Брэсц.

КО'ЛПІНАВА *ж.* затока каля Дняпра. Рагачоў Гом.

КОЛЫ'ШЧА *н.* урочышча. Чухава (764) Лагіш. Брэсц.

КО'ЛЬНЫ *мн.* урочышча. Слаўкавічы (823) Глускі Маг.

КО'ЛЯНЫК *м.* лес. Гутава Драг. Брэсц.

КО'ЛЯ ТЫ'ПЦА *м.* поле. Асаўляны Драг. Брэсц.

КОМА'Р *м.* урочышча. Запясочча (808) Тур. Гом.

КОМА'РОЎКЫ *мн.* паша каля балота. Каўняцін Мін. Брэсц.

КОМАРО'ЎШЧЫНА *ж.* урочышча. Букча (975) Тур. Гом.

КОМАРЭ'ЧА *ж.* хутар, дзе было непраходнае балота і лес, у якім было безліч камароў (інфарм.). Вулька Лаўская Пін. Брэсц.

КО'НАХУВ *м.* урочышча. Гарадное (967) Стол. Брэсц.

КО'НІК *м.* сенажаць, якая па форме напамінае каня (інфарм.). Чудзін. Ганц. Брэсц.

КО'НІКІ *мн.* сенажаць і лес. Бакшты Іўеў. Гродз.

КО'НІШЧЭ *н.* урочышча. Чабусы (818). Люб. Мін.

КО'ННА *ж.* паша каля рэчкі, дзе пасуць коні (інфарм.). Чудзін Ганц. Брэсц.

КО'ННАЯ гл. КО'ННА.

КО'ННІК *м.* урочышча. Паплавы (509) Бярэз. Мін.

КО'ННІКІ *мн.* лес і пасёлак. Бакшты Іўеў. Гродз.

КОНОТО'П *м.* поле, дзе было непрахадзімае балота, тапіліся коні (інфарм.). Боркі Бяроз. Брэсц.

КО'НСКАЯ ПА'ША *ж.* паша. Татаршчына Стаўбц. Мін.

КО'НСЬКІ ЛУГ *м.* балота. Гэты лух граскі, знаходзіцца за вёскай Пацавічы (інфарм.). Бакшты Іўеў. Гродз.

КОНТА'РЫСКО *н.* зараснік невялікі. Ласінцы Драг. Брэсц.

КО'НЦЫ *мн.* урочышча. Закупленне (550) Кліч. Маг.

КОНЭ'ПНІК *м.* сенажаць. Азарычы Пін. Брэсц.

КОНЭ'Ц *м.* частка вёскі. Стрыгава Кобр. Брэсц.

КОНЭ'ЦЬ *м.* частка вёскі. Пяркі Кобр. Брэсц.
КОНЮ'Х *м.* сенажаць і азярцо. Намакрава Лун. Брэсц.
КОНЮШЭ'ВШЧЫНА *ж.* поле. Бухавічы Кобр. Брэсц.
КОПАКО'ЎКА *ж.* балота. Баравое (989) Лельч. Гом.
КО'ПАНІ *мн.* поле. Гошчава Івац. Брэсц.; лес. Радванічы Брэсц.
КОПАНІ' *мн.* поле і ўзгорак. Пяркі Кобр. Брэсц.; балота, дзе капаюць торф (інфарм.). Галоўчыцы Драг. Брэсц.
КО'ПАНКА *ж.* поле. Запольцы Стаўбц. Мін.
КОПА'НКА *ж.* роў. Выганашчы Івац. Брэсц.
КО'ПАННЕ *н.* сенажаць. Заяленне Драг. Брэсц.
КО'ПАНЬ *ж.* поле. Ліпск Кругл. Маг.; урочышча. Стайкі (454) Гарадз. Брэсц.
КО'ПКА *ж.* дарога. Навасёлкі Мядз. Мін.
КО'ПЦЯВА *н.* урочышча. Нагуевічы (421) Слон. Гродз.
КОПЫ'ЛНЫКЫ *мн.* паляна. Броннае Драг. Брэсц.
КО'ПЫСЦЬ *ж.* сенажаць. Бастынь Лун. Брэсц.
КОРА'БЕНЬ *м.* сенажаць і лес. Елна Лун. Брэсц.
КО'РАМКА *ж.* поле. Малыя Аўцюкі (886) Калінк. Гом.
КО'РАНЬ *м.* урочышча. Рудня Гарбавіцкая (887) Калінк. Гом.
КО'РАЎКА *ж.* урочышча. Лазукі (264) Чаш. Віц.
КО'РБУТАВА ГАРА' *ж.* узгорак. Бакшты Іўеў. Гродз.; параўн. бел. прозвішча Корбут (М. Бір. БА, 2, 213), літ. Karĩbũtas (К. Буга, I, 227) < karas 'бой, вайна' + bũtas 'дом'. Такім чынам, прозвішча Karibũtas абазначае 'воін, які абараняе свой дом'.
КО'РБУТАЎ ЦЕРАБЕ'Ж *м.* сенажаць. Бакшты Іўеў. Гродз.
КОРГАНЫ' *мн.* поле, якое належала Коргану (інфарм.). Харава Пруж. Брэсц.
КОРЖЫ'В *м.* сенажаць. Бастынь Лун. Брэсц.
КО'РЗАЎШЧЫНА *ж.* поле, дзе Корзун жыў (інфарм.). Лагаза Лаг. Мін.
КО'РМЫ *мн.* урочышча. Чкалава (877) Калінк. Гом.
КОРМЭ'ЛНІЦА *ж.* лес. Турная (723) Івац. Брэсц.
КОРНІ'ЛОЎКА *ж.* лес, куды на паляванне ездзіў Карнілаў (інфарм.). Лунін Лун. Брэсц.
КОРНЫ'ЛКЫ *мн.* частка вёскі. Навасёлкі Кам. Брэсц.
КО'РОВШЧЫНА *ж.* урочышча. Лінова (685) Пруж. Брэсц.
КОРОГО'ДОВШЧЫНА *ж.* балота. Сухоўчыцы Кобр. Брэсц.
КОРОДЫ'ШЧА *мн.* сенажаць. Вялікі Лес Драг. Брэсц.
КОРОЛЁВА БОЛЭ'ТКА *ж.* сажалка. Субаты Драг. Брэсц.
КОРО'СТА *ж.* лес. Радванічы Брэсц.
КОРО'СТАВЫЦЯ *ж.* поле і сенажаць. Бухавічы Кобр. Брэсц.
КОРОЦЕ'ЛЬ *м.* урочышча. Каросцін (979) Лельч. Гом.
КОРО'ЧЧЫНО *н.* урочышча, дзе было гразкае месца, потым зарасло (інфарм.). Каўняцін Пін. Брэсц.
КО'РСАЎКА *ж.* урочышча. Якушонкі (96) Езяр. Віц.
КО'РУБ *м.* урочышча. Засімы (690) Кобр. Брэсц.
КО'РЧАВА *н.* сенажаць. Мікалаеўшчына Стаўбц. Мін.
КО'РЧАВЫ ЛОГ *м.* сенажаць. Дзераўная Стаўбц. Мін.
КОРЧА'НЧІНА НІ'ВКА *ж.* поле, дзе раней быў лес. Намакрава Лун. Брэсц.
КОРЧВА' *ж.* урочышча. Багуцічы (1002) Ельскі Гом.
КОРЧІ' *мн.* поле, паша і хутары. Сіманавічы Драг. Брэсц.; урочышча. Гірск (699), Арэхава (951) Малар. Брэсц.
КОРЧМЫ'СКО *н.* поле. Мазуры Кобр. Брэсц.

КО'РЧМЫСЬКО *н.* урочышча. Навасёлкі (689) Кобр. Брэсц.
КОРЧНІ'К *м.* урочышча. Махнавічы (982), Рамязы (984) Ельскі Гом.
КОРЧО'МЫСКО *н.* поле і балота. Валішча Пін. Брэсц.
КОРЧУГА' *ж.* урочышча. Сасноўка (686) Пруж. Брэсц., Горск (687) Бяроз. Брэсц.
КОРЧУКІ' *мн.* сенажаць і ўзгорак. Намакрава Лун. Брэсц.
КОРЧЫ' *мн.* урочышча. Бярозаўка (654) Выс. Брэсц., Бальшыя Лепясы (696) Кобр. Брэсц., Здзітава (724) Бяроз. Брэсц.
КОРЧЫЖЫНА'Я *ж.* поле і паша. Там расце хвойнік і верас (інфарм.). Сіманавічы Драг. Брэсц.
КОРЧЫНА' *ж.* поле на месцы выкарчаванага лесу (інфарм.). Лунін Лун. Брэсц.
КО'РЧЫШЧЭ *н.* поле, дзе былі кусты. Засінцы (995) Ельскі Гом.
КОРЧЫ'ШЧЭ *н.* урочышча. Парэчча (731) Лагіш. Брэсц.
КОРЧЭ' *мн.* урочышча. Мокрае (677) Пруж. Брэсц., Асаўцы (681) Бяроз. Брэсц., Рэчыца (720) Кобр. Брэсц.
КОРЧЭВА' *ж.* урочышча. Ліпляны (986) Лельч. Гом.
КОРЧЭ'ЎЕ *н.* лес. Турная (723) Івац. Брэсц.
КОРЧЭ'ШКА *ж.* урочышча. Замосце (955) Кобр. Брэсц.
КОРЫ'ННЕ *н.* урочышча. Журавок (741) Ів. Брэсц.
КОРЫ'ТІНА *ж.* поле. Азарычы Пін. Брэсц.
КОРЫ'ТІШЧЭ *н.* сенажаць. Сітніца (805) Лун. Брэсц.
КОРЫ'ТНІ *мн.* урочышча. Даманавічы (796) Староб. Мін.
КОРЫ'ТО *н.* сенажаць у даліне паміж палёў. Сіманавічы Драг. Брэсц.
КОРЭНЬКІ' *мн.* лес, у якім карэнні дрэў выходзяць на паверхню зямлі (інфарм.). Вулька Дастоеўская Драг. Брэсц.
КО'САЎКА *ж.* сенажаць, у якую ўразаецца пясчаная палоска ў форме касы (інфарм.). Чудзін Ганц. Брэсц.
КО'САЎШЧЫНА *ж.* поле. Белавічы Бярэз. Мін.
КО'СЕВЕРА *ж.* сенажаць. Ністанішкі Смарг. Гродз.
КОСЕ'СКО *н.* поле. Бастынь Лун. Брэсц.
КОСЕ'СЬКО *н.* сенажаць. Бастынь Лун. Брэсц.
КОСМО'ВО *н.* урочышча. Валута (761) Лун. Брэсц.
КОССЕ' *н.* сенажаць. Малыя Аўцюкі Калінк. Гом.
КОСЦЁР *м.* узвышша сярод балота. Хорск Стол. Брэсц.
КО'СЫ *мн.* урочышча. Чудзяны (622) Крыч. Маг.
КОСЬТЁЛОВ'Е *н.* поле каля ўрочышча Костёлово (інфарм.). Шумакі Брэсц.
КОТО'ВА ГАТЬ *ж.* балота, праз якое праклаў гаць Кот (інфарм.). Забалацце Малар. Брэсц.
КО'ТРЫНА *ж.* частка вёскі. Лубень Стаўбц. Мін.; параўн. літ. Katrà назва ракі (LUEV, 70), Kõtryna імя.
КО'ЎГАШЧЫНА *ж.* урочышча. Плоскінь (760) Лагіш. Брэсц.
КО'ЎЗАНСКІЯ ЛЯСЫ' *мн.* пушча. Беразіно Докш. Віц.
КОЎТО'БІНЫ *м.* урочышча. Малыя Аўцюкі (886) Калінк. Гом.
КОЎТО'БІШЧЫ *мн.*, гл. КОЎТО'БІНЫ.
КОЎТУ'Н *м.* лес, дзе богато на березах уецца коўтуніў (інфарм.). Лунін Лун. Брэсц.
КОЎТУНО'ВО *н.* балота. Турная (723) Івац. Брэсц.
КО'ХАВО *н.* лес хваёвы. Чудзін Ганц. Брэсц.

КО'ХАНАВА ГАРА' *ж.* узгорак, кажуць, што куханы пяклі там (інфарм.). Гайна Лаг. Мін.

КОЦУ'БІНА ГО'РКА *ж.* урочышча, дзе былі партызанскія зямлянкі (інфарм.). Сітніцкі Двор Лун. Брэсц.

КОЧУКО'ВЭ *н.* балота. Турная (723) Івац. Брэсц.

КОЧУ'РКА *ж.* урочышча. Дубай (773) Стол. Брэсц.

КО'ШЧА *н.* урочышча. Шапілавічы (822) Люб. Мін.

КО'ШЫКІ *мн.* сенажаць. Новы Свержань Стаўбц. Мін.

КО'ШЫШЧА *н.* лес. Глівін Барыс. Мін.

КОШЭ'ВІШЧА *н.* урочышча. Юркевічы (801) Жытк. Гом., Глушкавічы (978) Лельч. Гом.

КОШЭЛЁЎ *м.* лес. Горск Бяроз. Брэсц.

КРА'ВІЧЫ *мн.* урочышча. Сянежыцы (405) Нав. Гродз.

КРА'ГЕЛЬ *м.* поле. Папарна Круп. Мін., параўн. літ. kragẽlis 'ворчык'.

КРАЖЖО' *н.* урочышча. Казімірова (95) Пол. Віц.

КРАЙ *м.* урочышча. Медная (947) Брэсц.

КРА'ЙНІЯ *мн.* поле. Брухачы Стаўбц. Мін.

КРА'ЙНЫЦЯ *ж.* сенажаць. Стрыгава Кобр. Брэсц.

КРА'ЙСЬКІ *м.* урочышча. Рэчкі (759) Лагіш. Брэсц.

КРАЛЁВОЕ *н.* астраўкі сярод балота. Паводле легенды, там хаваўся ўцякач Кроль, якога пан хацеў аддаць у салдаты на 25 год (інфарм.). Чудзін Ганц. Брэсц.

КРАМАНІ'ЦА *ж.* рэчка. Купіск Нав. Гродз.

КРАМ'Ё *н.* поле. Саланое Віл. Мін.

КРАМІ'ШКА *ж.* поле. Вольдзікі Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Kramìškė 'т. с.'<krãmė 'мазгаўня'.

КРАМЯ'НКА *ж.* поле гарыстае, дзе сустракаецца крэмень (інфарм.). Скамарошкі Стаўбц. Мін.

КРАПІ'ВА *ж.* сенажаць. Шавярнічы Бярэз. Мін.

КРАПІ'ЎКА *ж.* урочышча. Журыхі (168) Віл. Мін.

КРАПІ'ЎНІК *м.* сенажаць. Старынкі (431) Івян. Мін.; поле. Трылес Стаўбц. Мін.; месца, дзе стаяў млын. Дзераўная Стаўбц. Мін.

КРАПІ'ЎНІЦА *ж.* сенажаць пад самае Пахомава (інфарм.). Рыбчына Віл. Мін.; сенажаць. Барысаўка Іўеў. Гродз.

КРАПІ'ЎНІЦКАГА ЗЯМЛЯ' *ж.* поле, якое належала Крапіўніцкаму (інфарм.). Рубяжэвічы Стаўбц. Мін.

КРАПІ'ЎНЫ РОГ *м.* урочышча. Глыбочыца (894) Чач. Гом.

КРАПІ'ЎНЯ *ж.* урочышча. Гарачэвічы (231) Леп. Віц.

КРАСАКО'ЎШЧЫНА *ж.* урочышча. Крупава (369) Шчуч. Гродз.

КРА'СІНСКОЕ ПО'ЛЕ *н.* поле. Міхеевічы Бярэз. Мін.

КРА'СКА *ж.* урочышча. Вялікія Сцеблевічы (800) Жытк. Гом.

КРАСЛАВА'ТКА *ж.* поле і сенажаць. Навасёлкі Мядз. Мін.

КРА'СНА *ж.* урочышча. Замосце (955) Кобр. Брэсц.

КРАСНАВА'ТНАСЦЬ *ж.* балота каля рэчкі, вада іржавая, бо тут многа гліны (інфарм.). Сенькавічы Івац. Брэсц.

КРА'СНАЕ *н.* лес. Завалочыцы Глускі Маг.; урочышча. Конкавічы (847) Петр. Гом.; поле і лес. Хатава Стаўбц. Мін.

КРАСНАПО'ЛЛЕ *н.* поле. Паложына Бярэз. Мін.; урочышча. Белянкі (106) Віц.

КРА'СНАЯ *ж.* урочышча. Палікараўка (494) Слуцкі Мін.

КРА'СНАЯ БАЛО'ТА *н.* урочышча. Трыбухі (26) Міёр. Віц.
КРА'СНАЯ ГАРА' *ж.* урочышча. Палыкавічы (570) Маг.
КРА'СНАЯ ГО'РКА *ж.* сенажаць. Налібакі Стаўбц. Мін.; лес. Купіск Нав. Гродз.
КРА'СНІК *м.* поле, дзе некалі быў лес. Дзяніскавічы Ганц. Брэсц.
КРА'СНІЦА *ж.* урочышча. Забалоцце (896) Б.-Каш. Гом.
КРА'СНОЕ *н.* урочышча. Вулька Другая (765) Лун. Брэсц., Свеча (1007) Нар. Гом.
КРАСНО'Е *н.* поле. Міхеевічы Бярэз. Мін.
КРА'СНЫ БОР *м.* урочышча. Таль (781) Люб. Мін.
КРА'СНЫ ГРУД *м.* узгорак, дзе многа красак (інфарм.). Гічыцы Івац. Брэсц.
КРА'СНЫЙ БУРО'К *м.* урочышча. Бельск (704) Кобр. Гом.
КРА'СНЫЙ ДУБ *м.* урочышча. Малыя Аўцюкі Калінк. Гом.
КРА'СНЫ МОСТ *м.* мост. Елна Лун. Брэсц.
КРА'СНЫЦЯ *ж.* дарога да Антопаля, з'яўляецца як бы галоўнай, краснай (інфарм.). Дзеткавічы Драг. Брэсц.
КРАСО'ЎКІ *мн.* горы, балоты, зарослыя арэшнікам і бярэзнікам. Навасёлкі Мядз. Мін.
КРАСУ'ЛЯ *ж.* поле, якое цяпер забудавалі. Дзяніскавічы Ганц. Брэсц.
КРАСЦЕ'ЦКЕ *н.* сенажаць, дзе многа сухога хмызняку, які хрусціць пад нагамі (інфарм.). Чудзін Ганц. Брэсц.
КРАСЫ'НЯ *ж.* лес па дарозе на Свіцязь, там маладнік расце (інфарм.). Міратычы Кар. Гродз.
КРА'ЎЗА *ж.* урочышча. Рудня (672) Свісл. Гродз.
КРАЎНІ'К *м.* урочышча. Цяпіна (263) Чаш. Віц.
КРАЎЦО'Ў КРЫ'ЖЫК *м.* брод на старой дарозе. Журоўка Бярэз. Мін.
КРАШНІ'К *м.* урочышча. Палікараўка (494) Слуцкі Мін.
КРАШЭ'ВІК *м.* азярцо. Вострава Маст. Гродз.
КРА'ШЭНСКЭ *н.* сенажаць. Бастынь Лун. Брэсц.
КРІВА'Я ПО'ЖНЯ *ж.* сенажаць. Ялавец (645) Хоц. Маг.
КРІВЫ'Я *мн.* урочышча. Гразівец (585) Чав. Маг.
КРІМЯНЕ'Ц *м.* урочышча. Халмы (574) Чав. Маг.
КРІНІ'ЦА *ж.* поле і балота з крыніцай. Сінкевічы Лун. Брэсц.
КРО'КАВО *н.* урочышча. Асмолава (401) Нав. Гродз.
КРОКА'ЛЬ *м.* урочышча. Вербавічы (1004) Нар. Гом.; параўн. літ. krioklỹs, kroklỹs 'буркун, бурчак' (пра крыніцу).
КРО'МАНЬСКАЯ КАНА'ВА *ж.* канава непадалёку ад возера Кромань. Дзераўная Стаўбц. Мін.
КРО'МЯНЬ *м.* возера за Налібакамі. Бакшты Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Kramýnas назва лесу, Kr̃amaraistis назва балота (КЛГН).
КРОСНО'ВСКЫЙ ЛУГ *м.* сенажаць. Бялынь Ласінскі Драг. Брэсц.
КРОТО'ЎСЬКЕЕ *н.* лес, які належаў калісь Кротаву (інфарм.). Вулька Дастаеўская Драг. Брэсц.
КРОТЫНЕ'Ц *м.* сенажаць. Бастынь Лун. Брэсц. Магчыма, што назва паходзіць ад бел. крот.
КРОТЫ'НЬ *м.*, гл. КРОТЫНЕ'Ц.
КРО'ХАВА *н.* балота, густа зарослае вольхай, крушынай, лазой, рабінай і калінай (інфарм.). Навасёлкі Мядз. Мін.

КРО'ШНЯ *ж.* урочышча. Танежыцы (777) Слуцкі Мін.
КРУГ *м.* поле. Нясвіж Мін.; лес. Акропна Драг. Брэсц.; урочышча. Бялынь Ласінскі Драг. Брэсц., Навікі (858) Жлоб. Гом.
КРУГАНЭ'ЦЬ *м.* поле. Пескі Кобр. Брэсц.
КРУГІ' *мн.* поле, дзе раней быў лес. Пярэспа Драг. Брэсц.; урочышча. Заселле (908) Рэч. Гом., Сувіды (1023) Камар. Гом.
КРУ'ГЛА *ж.* поле. Дзяніскавічы Ганц. Брэсц.; балота і лес. Броннае Драг. Брэсц., Казловічы (664) Брэсц.
КРУ'ГЛАЕ *н.* поле. Осава Стаўбц. Мін., Булаўкі Калінк. Гом.; лес. Осава Стаўбц. Мін.; урочышча. Барсукі (29) Др. Віц., Крупец (937) Добр. Гом., Маркавічы (943) Цер. Гом.
КРУ'ГЛАЕ БАЛО'ТА *н.* балота. Зуі Стаўбц. Мін.; балота ў лесе, якое мае круглую форму. Ліпск Кругл. Маг.; паша, а кругом кусты (інфарм.). Шашкі Стаўбц. Мін.; урочышча. Рудня Гарбавіцкая (887) Калінк. Гом.
КРУ'ГЛАЕ БАЛО'ЦЕЧКА *н.* балота, дзе цяпер працякае рэчка. Дразды Стаўбц. Мін.
КРУ'ГЛАЕ ПО'ЛЕ *н.* поле і лес. Некаторыя шнуры зацягвалі аж за лес, а гэта поле ішло толькі да лесу, таму шнуры тут былі карацейшыя і шырэйшыя, ад гэтага і назва (інфарм.). Ячонка Стаўбц. Мін.
КРУ'ГЛАЯ *ж.* поле сярод лесу. Лунін Лун. Брэсц., Навасёлкі Свісл. Гродз., Вольдзікі Іўеў. Гродз.; сенажаць. Жылі Іўеў. Гродз.; балота. Хвасты (9) Брасл. Віц.
КРУ'ГЛАЯ НІ'ВА *ж.* поле. Саламір'е Пол. Віц.
КРУ'ГЛІК *м.* лес. Навасёлкі Свісл. Гродз.; урочышча. Дзедаўка (802) Жытк. Гом.
КРУ'ГЛІНЬКАЕ *н.* балота. Казлы Міёр. Віц.
КРУ'ГЛІЦА *ж.* поле і вакол поля лес. Пасека Ст.-дар. Мін.; поле. Варапаі, Градкі Стаўбц. Мін.; сенажаць. Малая Гуменаўшчына Стаўбц. Мін., Лука Стол. Брэсц., Лахаўка Лун. Брэсц.; балота. Цвіркі Стаўбц. Мін.; лес. Галавенчыцы Стаўбц. Мін.; урочышча. Чапеліна (303) Арш. Віц., Захарычы (463) Мін.
КРУ'ГЛІЦЫ *мн.* поле. Зяневічы Стаўбц. Мін., палянка. Падлессе Стаўбц. Мін.
КРУГЛІ'ЦЫ *мн.* палянка була кругла (інфарм.). Пасека (815) Ст.-дар. Мін.
КРУГЛО'ВІНА *ж.* сенажаць. Старынкі (431) Івян. Мін.; урочышча. Даманавічы (796) Староб. Мін.
КРУ'ГЛОЕ *н.* урочышча. Грэбень (846) Жытк. Гом.
КРУ'ГЛЫ БАРО'К *м.* балота. Заазер'е Віл. Мін.
КРУ'ГЛЫ ЗАСЦЕ'НАК *м.* пасёлак. Дзевятні Смарг. Гродз.
КРУ'ГЛЫ ЛЕС *м.* лес. Запольцы Стаўбц. Мін.
КРУ'ГЛЫНЫ *мн.* поле. Сычы Брэсц.
КРУ'ГЛЫЦЯ *ж.* урочышча. Стрыганец (700) Кобр. Брэсц.
КРУ'ГЛЫЯ *мн.* урочышча. Журыхі (168) Віл. Мін., Сценкі (193) Докш. Віц.
КРУ'ГЛЫЯ БАЛО'ТА *н.* урочышча. Ялавец (645) Хоц. Маг.
КРУ'ГЛЭ *н.* урочышча. Радзеж (950) Малар. Брэсц.
КРУГЛЯ'К м. поле і паша. Старына Стаўбц. Мін.; узгорак у лесе сярод балота (інфарм.). Лумна Кам. Брэсц.
КРУГЛЯКІ' *мн.* урочышча. Колкі (747) Клецкі Мін.
КРУГЛЯ'НСКІ КУТ *м.* лес. Апечкі Стаўбц. Мін.
КРУГНЭ'ВКА *ж.* поле. Бялынь Ласінскі Драг. Брэсц.

КРУГО'ВІНА *ж.* паляна ў лесе. Выганашчы Іваң. Брэсц., Альхоўка Нав. Гродз.; азярцо Купіск Нав. Гродз.

КРУЖА' *ж.* урочышча. Грэбень (846) Жытк. Гом.

КРУ'ЖНІЦА *ж.* урочышча. Колкі (974) Стол. Брэсц.

КРУЖО'К *м.* урочышча. Махро (958) Ів. Брэсц.

КРУ'ЖЫЦА *ж.* возера. Глівін Барыс. Мін.

КРУК *м.* урочышча. Рудая (46) Глыб. Віц.

КРУ'КАВА *н.* урочышча. Няклюдава (273) Тал. Віц.

КРУКАЎЦЫ' *мн.* урочышча. Падневічы (427) Івян. Мін.

КРУ'КАЎШЧЫНА *ж.* урочышча. Кулажын (1024) Камар. Гом.

КРУ'КІН *м.* поле. Манасеева Лун. Брэсц.

КРУКОВІ'ЦА *ж.* урочышча. Ліпляны (986) Лельч. Гом.

КРУКЫ' *мн.* частка вёскі. Стрыгава Кобр. Брэсц.

КРУ'ЛЕВА *н.* поле. Сімакова Кар. Гродз.

КРУ'ПА *ж.* сенажаць. Намакрава Лун. Брэсц.; высокае месца каля Прыпяці, назва паходзіць ад прозвішча купца Крупа, які прадаваў тут тавары (інфарм.). Лахаўка Лун. Брэсц.

КРУПІ'ЦА *ж.* урочышча. Узнаж (874) Светл. Гом.

КРУ'ПКА *ж.* лес. Паляцкішкі Вор. Гродз.

КРУ'ПЛІ *мн.* балота і вёска. Бакшты Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Krũplis назва вёскі (КЛГН), Krupaĩle геаграфічная назва (G. Gerullis und Chr. S. Stang'as. Lietuvių žvejų tarmė Prūsuose. Kaunas, 1933, стр. 99) <kruplùs 'баязлівы' (СЛМ, VI, 711).

КРУПЛЯ'НСКАЕ *н.* балота ў лесе на тэрыторыі Сверper жанскага лясніцтва. Рагачоў Гом.

КРУ'ПНЫК *м.* лес. Валішча Пін. Брэсц.

КРУ'ПНЫЯ *мн.* урочышча. Ціляшы (618) Слаўг. Маг.

КРУ'ПСКАГА ЛЕС *м.* лес. Татаршчына Стаўбц. Мін.

КРУПЦЫ' *мн.* поле. Аталезь Стаўбц. Мін.

КРУ'ПЧЫЧЫ *мн.* частка вёскі. Рыкавічы Жаб. Брэсц.

КРУ'ПШЧЫНА *ж.* лес, які належаў Крупскаму. Наваселле Стаўбц. Мін.

КРУТА'Я ГАРА' *ж.* горка. Слабада Смал. Мін.; поле. Слабада Стаўбц. Мін.; урочышча. Радуты (20) Паст. Віц.

КРУТКІ' *мн.* пасёлак, частка вёскі. Ліпск Кругл. Маг.

КРУТО'Е *н.* сенажаць на беразе ракі Лані. Чудзін Ганц. Брэсц.

КРУТУХА' *ж.* поле і гара крутая. Ячонка Стаўбц. Мін.

КРУТЫ' БЕ'РАГ *м.* сенажаць. Кострычы (559) Кір. Маг.

КРУТЫ' РОЎ *м.* яр вялікі. Ліпск Кругл. Маг.

КРУ'ХЕЛЬ *м.* сенажаць. Журоўка Бярэз. Мін.

КРУ'ХЕЛЬСКІ БОР *м.* лес. Журоўка Бярэз. Мін.

КРУЦЁЛКА *ж.* сенажаць. Там ручаямі круціцца вада (інфарм.). Навасёлкі Мядз. Мін.

КРУЦЯ'ШЧЫЯСЯ ВАРО'ТЦЫ *мн.* поле, дзе стаяў плот з варотцамі, якія паварочваліся (інфарм.). Навасёлкі Мядз. Мін.

КРУ'ЧА *ж.* сенажаць. Азяраны Рагач. Гом.

КРУ'ЧАНКА *ж.* урочышча. Хатынічы (754) Ганц. Брэсц.

КРУЧКО'ЎСКАЯ АМША'РА *ж.* лес. Казлы Міёр. Віц.

КРУЧКО'ЎСКІ ЛУГ *м.* сенажаць. Казлы Міёр. Віц.

КРУ'ЧЧА *н.* урочышча. Покаць (927) Чач. Гом.

КРУШ *м.* урочышча. Даравое (50) Глыб. Віц.

КРУ'ШЛЯД *м.* поле і сенажаць. Мацы Кобр. Брэсц.

КРУШНІ'К *м.* поле і лес. Бакшты Іўеў. Гродз.

КРУ'ШНЯ *ж.* поле, дзе куча камення ляжыць (інфарм.). Навасёлкі Свісл. Гродз.; параўн. літ. krūsnis 'куча камення'.

КРУШНЯ' *ж.* лес і балота, дзе расце крушняк (крушына) (інфарм.). Чудзін Ганц. Брэсц.

КРУШО'НКІ *мн.* сенажаць. Сітніца (805) Лун. Брэсц.

КРУШЫ'ЛНО *н.* лес. Сітніца (805) Лун. Брэсц.

КРУШЫНА' *ж.* поле, дзе быў лес. Пярэспа Драг. Брэсц.

КРУШЫ'ННІК *м.* поле. Навасёлкі Бярэз. Мін.

КРУШЫ'ННЯ *н.* урочышча. Дроздзіна (254) Барыс. Мін.

КРУШЫ'НЫЙ *м.* урочышча. Відомля (659) Кам. Брэсц.

КРУШЭНІ'ЦКОГО *м.* поле. Турная (723) Івац. Брэсц.

КРЫВА' ДУБРО'ВА *ж.* урочышча. Запясочча (808) Тур. Гом.

КРЫВА'ЛЬ *м.* сенажаць. Рудня Астравітая Чэрв. Мін.

КРЫВА' НІ'ВА *ж.* сенажаць. Сітніца (805) Лун. Брэсц.

КРЫВА'НЬ *ж.* сенажаць. Вішнявец, Вязавец Стаўбц. Мін.

КРЫВА'Я *ж.* поле навокал вострава. Намакрава Лун. Брэсц.; урочышча. Анкуды (173) Ашм. Гродз.

КРЫВА'Я ВУ'ЛІЦА *ж.* частка вёскі. Брухачы Стаўбц. Мін.

КРЫВА'Я ГАРА' *ж.* гара крутая. Навасёлкі Мядз. Мін.; урочышча. Батарэя (688) Бяроз. Брэсц.

КРЫВА'Я ГРЭ'БЛЯ *ж.* лес за Сомрамі, субалаткі, мосцік ёсць (інфарм.). Свірыдаўка Круп. Мін.

КРЫВА'Я ДАРО'ГА *ж.* дарога. Цеснавая Стаўбц. Мін.

КРЫВА'Я НІ'ВА *ж.* поле і сенажаць. Белавічы Бярэз. Мін.; урочышча. Махнавічы (790) Староб. Мін.

КРЫВА'Я НІ'ЎКА *ж.* урочышча. Мятлічыцы (207) Плешч. Мін.

КРЫВЕ'ЛЬ *м.* сенажаць і паша. Сверынава Стаўбц. Мін.

КРЫВЕ'Ц *м.* сенажаць. Мачаск Бярэз. Мін.; урочышча. Шацілкі (870) Светл. Гом.

КРЫВІ'ЦЫ *мн.* поле і назва вёскі пад Нёман (інфарм.). Бакшты, Барысаўка Іўеў. Гродз., параўн. літ. Krìves назва сенажаці, Krivýčia выгіб ракі (КЛГН).

КРЫВО'ГРАЦЬ *ж.* поле. Пасека (818) Ст.-дар. Мін.

КРЫВО'Е *н.* лес. Навасёлкі Кам. Брэсц.; возера, прадаўгаватае, скрыўленае. Паніквы Кам. Брэсц.

КРЫВО'Е ЛЯ'ДА *н.* поле. Забалоцце (471) Мін.

КРЫВО'Й *ж.* урочышча. Хвіневічы (408) Дзятл. Гродз.

КРЫВО'Й НІ'ВА *ж.* урочышча. Вербавічы (1004) Нар. Гом.

КРЫВУ'ЛЬКА *ж.* урочышча. Параслішча (871) Акц. Гом.

КРЫВУ'ЛЬКЫ *мн.* поле, крывыя палеткі. Ланская Малар. Брэсц.

КРЫВУ'ЛЯ *ж.* поле і паша. Апечкі Стаўбц. Мін.; поле. Варацішча Стаўбц. Мін., Капаткевічы Гом.; поле, сенажаць і паша. Стары Свержань Стаўбц. Мін.; урочышча. Спярыжжа (1021) Браг. Гом.

КРЫВЫ' *м.* урочышча. Маставілішкі (178) Ашм. Гродз.

КРЫВЫ' АГАРО'Д *м.* поле. Дзяніскавічы Ганц. Брэсц.

КРЫВЫ' МУСТ *м.* мост. Дубай (773) Стол. Брэсц.

КРЫВЫ' РОГ *м.* поле. Елна Лун. Брэсц.; сенажаць. Засулле Стаўбц. Мін.

КРЫВЫ'Е *мн.* поле. Валішча Пін. Брэсц.; лес. Разны лес, крывы расце (інфарм.). Лунін Лун. Брэсц.

КРЫВЫ'І ДРУ'ГЫ *мн.* поле і паша, якія размешчаны каля пакручастай стругі (інфарм.). Сіманавічы Драг. Брэсц.

КРЫВЫ'І ПЭ'РШЫ *мн.* поле і паша, форма ўрочышча скрыўленая, там знаходкі каменных прылад працы (інфарм.). Сіманавічы Драг. Брэсц.

КРЫВЫ'Й *м.* урочышча. Малыя Аўцюкі (886) Калінк. Гом.

КРЫВЫ'НЬ *м.* лес. Дарапеевічы Малар. Брэсц.

КРЫВЫ'Я *мн.* поле. Малыя Аўцюкі Калінк. Гом.

КРЫВЫ'Я ЛЯСКІ' *мн.* урочышча. Мачулішчы (243) Круп. Мін.

КРЫВЫ'Я МЕ'ЖЫ *мн.* урочышча. Смыковічы (828) Акц. Гом.

КРЫВЭ'ЦЬ *м.* урочышча. Чарняны (952) Малар. Брэсц.

КРЫВЯЛЁЎ *м.* урочышча. Бывалькі (1017) Лоеў. Гом.

КРЫВ'Я'Ч *м.* поле. Бастынь Лун. Брэсц.

КРЫЖ *м.* поле каля скрыжавання дарог. Еўлашы Ів. Брэсц.; плошча на раздарожжы, дзе стаяў крыж раней (інфарм.). Сіманавічы Драг. Брэсц.; урочышча. Тышкавічы (726) Ів. Брэсц., Малыя Гарадзяцічы (830) Люб. Мін.

КРЫЖАВЫ'Я *мн.* урочышча. П'яны Лес (200) Докш. Віц.

КРЫЖАЛЯ' ДАРО'ГА *ж.* дарога. Старыя Смільгіні Вор. Гродз.; параўн. літ. Kryžalio kẽlias<Kryžẽlio kẽlias 'т. с.' (КЛГН).

КРЫЖАЎСКІ'Я *мн.* лес сасновы каля ўрочышча Крыжы. Беразіно Докш. Віц.

КРЫЖА'ЦКІ ЛЕС *м.* лес. Некалі там быў манастыр (інфарм.). Нясвіж Мін.

КРЫЖІ'ВКА *ж.* дарога. Дарапеевічы Малар. Брэсц.

КРЫ'ЖНІКІ *мн.* поле. Залужжа Стаўбц. Мін.

КРЫЖОВА'Я *ж.* дарога. Аляксеевічы Драг. Брэсц., Чыжэўшчына Жаб. Брэсц.

КРЫЖОВЫ'Й ЛУГ *м.* урочышча. Відомля (659) Кам. Брэсц.

КРЫЖЫ' *мн.* сенажаць заліўная. Беразіно Докш. Віц.; балота невялікае. Шавярнічы Бярэз. Мін.; урочышча. Вішнева (73) Пол. Віц., Няклюдава (273) Тал. Віц.

КРЫ'ЖЫК *м.* поле. Дзяніскавічы (751) Ганц. Брэсц.

КРЫ'ЖЫКІ *мн.* поле. Бастынь Лун. Брэсц.; лес, дзе скрыжоўваюцца дарогі. Божава Пін. Брэсц., Суднікі Стаўбц. Мін.

КРЫЖЭ'ЛІШКІ *мн.* урочышча. Камялішкі (138) Астр. Гродз.

КРЫ'ЛЕЎКА *ж.* сенажаць. Навасёлкі Мядз. Мін.

КРЫЛЫ'ВКА *ж.* урочышча. Добрае (702) Кобр. Брэсц.

КРЫНІ'ЦА *ж.* поле і лес. Мікалаеўшчына Стаўбц. Мін.; поле каля крыніцы. Мярэцкія Глыб. Віц.; сенажаць.Ініца Стаўбц. Мін., Рудня Астравітая Чэрв. Мін.; поле і сенажаць, дзе калісьці была крынічка. Еўлашы Ів. Брэсц., поле. Забалоцце (471) Мін.; крыніца. Слабада, Стары Свержань Стаўбц. Мін.; гара, з-пад якой выцякае крынічка. Слабодка Зал. Стаўбц. Мін.; лагчына. Там кругавіна, такая гразь і скаціна не пройдзе (інфарм.). Рыбчына Віл. Мін.; урочышча. Пасека (815) Ст.-дар. Мін., Мялешкавічы (980) Маз. Гом., Маньчыцы (981) Лельч. Гом.

КРЫНІ'ЦЫ *мн.* сенажаць і паша. Зуі Стаўбц. Мін.; сенажаць. Апіта Іўеў. Гродз.; урочышча. Каменка (319) Шкл. Маг.

КРЫНІ'ЧКА *ж.* канава ў лесе, дзе крынічная вада. Чудзін Ганц. Брэсц.

КРЫНІ'ЧКІ *мн.* урочышча. Паляшыцы (332) Гор. Маг.

КРЫНІ'ЧНА *н.* паша і сенажаць. Новая Вёска Стаўбц. Мін.

КРЫНІ'ЧНАЕ *н.* сенажаць. Дзярэчынцы Стаўбц. Мін.

КРЫНІ'ЧНАЯ *ж.* урочышча. Пруды (434) Івян. Мін.

КРЫНІ'ЧНЫ ЛУГ *м.* азярцо. Міратычы Кар. Гродз.; урочышча. Вуглы (429) Івян. Мін.

КРЫ'НКЫ *мн.* паша. Навасёлкі Кам. Брэсц.

КРЫНО'САЎШЧЫНА *ж.* поле, сенажаць і частка вёскі. Галавенчыцы Стаўбц. Мін.

КРЫНЫ'ЦА *ж.* нізіна з кустамі і крыніцай. Каўняцін Пін. Брэсц.

КРЫНЫ'ЦЯ *ж.* поле, дзе ёсць крыніца, з якой п'юць ваду. Хаціслаў Малар. Брэсц., Пескі Кобр. Брэсц.

КРЫНЫ'ЧНЫЙ *м.* урочышча. Купяцічы (769) Пін. Брэсц.

КРЫНЫ'ЧЫНА *ж.* урочышча. Хмелева (661) Кам. Брэсц.

КРЫ'НЬКІ *мн.* палянка ў лесе, лес быў, павалілі, там курган харошы, амшарынка, дзе мох расце (інфарм.). Дзяніскавічы Ганц. Брэсц.

КРЫПУ'ЛЬСКІ ЛЕС *м.* лес. Докшыцы Віц.; параўн. назву вёскі Крыпулі ў тым жа р-не; магчыма, ад літ. krypùlis 'хто ідзе хістаючыся'.

КРЫ'СА *ж.* урочышча. Грэбень (846) Жытк. Гом.

КРЫЎ *м.* поле. Азарычы (725) Лагіш. Брэсц.

КРЫ'ЎКА *ж.* сенажаць. Бастынь Лун. Брэсц.

КРЫ'ЧНА *ж.* лес. Сітніца (805) Лун. Брэсц.

КРЫШАЛО'ЎШЧЫНА *ж.* востраў, які знаходзіцца паміж урочышчамі Вялікія Сосні і Малыя Сосні (інфарм.). Дразды Стаўбц. Мін.

КРЫШТО'ПАЎ РУЧЭ'Й *м.* ручай. Навасёлкі Мядз. Мін.

КРЫШЫ'ВЕНЬ *м.* поле. Стары Свержань Стаўбц. Мін.

КРЭЙВУ'ЛІ *мн.* поле. Вольдзікі Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Kreivùlios 'т. с.'; назва паходзіць ад kreivùlios 'крывые'.

КРЭ'ЙДАЎШЧЫНА *ж.* поле. Мархачоўшчына Стаўбц. Мін.

КРЭМЕНЕ' *мн.* урочышча. Лохніца (990) Лельч. Гом.

КРЭ'НЕЎШЧЫНА *ж.* поле, якое належала Крэню (інфарм.). Падлессе Стаўбц. Мін.

КРЭЎ *м.* поле. Азарычы Пін. Брэсц.

КРЭ'ЎЯ *н.* сенажаць і балота. Бягомль Докш. Віц.

КРЭ'ЧОТ *м.* поле і паша з бярэзнікам і без кустоў. Сіманавічы Драг. Брэсц.

КРЭ'ЧЫНА *н.* сенажаць. Альхоўка Нав. Гродз.

КРЭ'ШАВО *н.* урочышча. Таль (781) Люб. Мін.

КСЕ'НЖНЫЯ *мн.* сенажаць. Навасёлкі Свісл. Гродз.

КСЯНДЗО'ВА *н.* поле і сенажаць, якія належалі ксяндзу (інфарм.). Сцяцкі Стаўбц. Мін.

КСЯНДЗО'ВА ГАРА' *ж.* лес. Нясвіж Мін.

КСЯНДЗО'ВА ПО'ЛЕ *н.* поле. Даўнары Іўеў. Гродз.

КСЯНДЗО'ЎСКІ ЛУГ *м.* сенажаць. Дудкі Стаўбц. Мін.

КСЯНДЗО'ЎСКІЯ *мн.* урочышча. Падневічы (427) Івян. Мін.

КСЯНДЗО'ЎШЧЫНА *ж.* поле, якое аддзялялася ад Папоўшчыны могілкамі і належала ксяндзу (інфарм.), Галавенчыцы Стаўбц. Мін.

КСЯНДЗЫ' *мн.* урочышча. Белянкі (106) Віц.

КУБАНІ' *мн.* лес. Радванічы Брэсц.

КУБА'НЦОВЭ *н.* поле і лес. Трасцянка Пін. Брэсц.

КУБА'РКАЎ ЛЕС *м.* лес. Більдзюгі (36) Шарк. Віц.

КУБЕ'ЗА *ж.* урочышча. Альбін (827) Акц. Гом.

КУ'БЛІЧЫ *мн.* сенажаць. Лагі Бярэз. Мін.

КУ'БЛЯ *ж.* вельмі забалочаная частка поймы ракі Кублі (інфарм.). Навасёлкі Мядз. Мін.

КУВАЛЁЎ МОСТ *м.* урочышча. Ялавец (645) Хоц. Маг.

КУВЕНЯ' *ж.* урочышча. Сувіды (1023) Камар. Гом.

КУ'ГАЧОВО *н.* поле і балота. Хадасы Жаб. Брэсц.

КУДВО'РЫШЧА *н.* азярцо, на полі ёсць луг, яму такое названя (інфарм.). Міратычы Кар. Гродз.

КУ'ДЗЕРКА *ж.* сенажаць. Горкі Стаўбц. Мін.

КУ'ДЗЕРКІ *мн.* лес сярод поля. Даўнаршчына, Вялікая Гуменаўшчына Стаўбц. Мін.

КУ'ДЗЯРАЧКА *ж.* азярцо з крыніцай. Відэйшы Ашм. Гродз.

КУ'ДЗЯРКІ *мн.* урочышча. Рочавічы (212) Віл. Мін.

КУ'ДНОВКА *ж.* поле. Імянін Драг. Брэсц.

КУ'ДРА *ж.* поле, дзе расла кудзерка арэшніку, цяпер выцерабілі і расце толькі дзікая трава (інфарм.). Сцяцкі Стаўбц. Мін.; бярэзнік. Курачкі Стаўбц. Мін.; лясок. Баханы Стаўбц. Мін.; лес. Ністанішкі Смарг. Гродз.; лес на сухім месцы, дзе многа ягад. Ходзішкі Смарг. Гродз.; палянка ў лесе. Барысаўка Іўеў. Гродз., паша. Апечкі, Курачкі Стаўбц. Мін.; заростае месца на полі. Курчаўцы (352) Рад. Гродз.; урочышча. Беражно (445) Кар. Гродз.; азярцо, дзе мачылі лён. Гостраў Маст. Гродз.; азярцо, дзе бралі воду (інфарм.). Граўжышкі Ашм. Гродз.; балота. Апіта Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Kūdra назва поля, балота, сенажаці (КЛГН); назва паходзіць ад літ. апелятыва kūdra 'стаў, сажалка'.

КУДРА'ЎКА *ж.* урочышча, дзе раньшы кустарнікі былі (інфарм.). Навіцы (65) Міёр. Віц.

КУ'ДРЫ *мн.* азярцо, дзе мачылі лён, і ўрочышча (інфарм.). Вострава Маст. Гродз.; поле на месцы выкарчаванага кустарніку (інфарм.). Сіманы (400) Лід. Гродз.

КУ'ДЫНОВКА *ж.* поле, дзе раней была паша. Субаты Драг. Брэсц.

КУЗМІ'Н ЛЕС *м.* лес. Дзяніскавічы Ганц. Брэсц.

КУЗМІ'Н МОХ *м.* балота. Дзяніскавічы Ганц. Брэсц.

КУЗМІ'НШЧЫНА *ж.* хутар. Гайна Лаг. Мін.

КУЗНІ'ЎКА *ж.* урочышча. Каўшова (605) Мсцісл. Маг.

КУЗЦО'Ў *м.* урочышча. Малыя Аўцюкі (886) Калінк. Гом.

КУЗЬМО'ВА БАЛО'ТЦА *н.* сенажаць. Цеснавая Стаўбц. Мін.

КУЗЭ'ЛКА *ж.* поле. Дарапеевічы Малар. Брэсц.

КУ'КАЛЕЎКА *ж.* поле, сенажаць і назва вёскі. Як станавілася вёска, то імя сенакосу і поля было Кукалеўка (інфарм.). Рудня Астравітая Чэрв. Мін.

КУКЕ'ЛІШЧЫНА *ж.* поле і сенажаць. Гошава Драг. Брэсц.

КУ'КЛЫ *мн.* сенажаць. Багушэвічы (511) Бярэз. Мін.

КУКУ'ЛЬКАВА *ж.* вуліца ад мянушкі Кукулька (інфарм.). Якшыцы Бярэз. Мін.

КУКШЫ'НСКІ ЛЕС *м.* лес. Бакшты Іўеў. Гродз.; параўн. бел. прозвішча Кукша (М. Бір. БА, 2, 228), літ. Kukšà, Kùkšas, Kukšỹs (КЛП), Kukỹs назва возера (LUEV, 82); kùkti 'гнуцца, выгінацца, гудзець, выць' (E. Fr. LEW, 306).

КУЛА'ЖАНКІ *мн.* поле, дзе сеялі жыта (інфарм.). Навасёлкі Бярэз. Мін.

КУЛЕ'ВО *н.* балота. Навасёлкі Свісл. Гродз.

КУЛЁВА *ж.* урочышча. Старыя Пескі (721) Бяроз. Брэсц.
КУЛЁВО *н.* сенажаць. Навасёлкі Свісл. Гродз.
КУЛЁК *м.* урочышча. Белая (209) Плешч. Мін.
КУЛЁЎКА *ж.* поле. Цеснавая Стаўбц. Мін.
КУЛІ′ *мн.* поле і хутары. Сцяцкі Стаўбц. Мін.
КУЛІ′К *м.* поле і сенажаць. Вялікая Гуменаўшчына Стаўбц. Мін.; урочышча. Сейлавічы (453) Нясв. Мін.
КУ′ЛІКАВА *н.* поле. Мыслабаж Лях. Брэсц.
КУ′ЛІКАВА ПО′ЛЕ *н.* урочышча. Янкавічы (58) Рас. Віц.
КУЛІКІ′ *мн.* сенажаць. Ністанішкі Смарг. Гродз.
КУЛІКО′ЎКА *ж.* сенажаць. Кісялёўшчына Стаўбц. Мін.
КУЛІКО′ЎСКАЯ *ж.* поле. Кісялёўшчына Стаўбц. Мін.
КУЛІ′НА *ж.* урочышча. Стайкі (62) Др. Віц.; параўн. літ. kūlýnai 'кусты'.
КУЛІ′НЫ *мн.* сенажаць. Стары Востраў (518) Кліч. Маг., гл. КУЛІ′НА.
КУЛІ′ЦКІЯ *мн.* поле. Рубяжэвічы Стаўбц. Мін.
КУЛІЧО′К *м.* поле. Вялікая Гуменаўшчына Стаўбц. Мін.
КУЛІ′ШЧА *н.,* гл. КУЛІ′ЦКІЯ.
КУЛЫШІ′ *мн.* поле і сенажаць. Сіманавічы Драг. Брэсц.
КУЛЬ *м.* поле. Заямнае Стаўбц. Мін., Навасёлкі Свісл. Гродз., Аксакаўшчына (464) Мін.; паша. Тулёнка Стаўбц. Мін.; лес. Навасёлкі Свісл. Гродз.; балота. Сухоўчыцы Кобр. Брэсц.
КУЛЬБА′КАЎШЧЫНА *ж.* урочышча. Курганы (225) Мін.
КУЛЬТУ′РА *ж.* урочышча, дзе раней быў пасёлак. Выдранка (636) Красн. Маг.
КУЛЬТУ′РКА *ж.* урочышча. Новая Дзярэўня (565) Бабр. Маг.
КУЛЯЎСКІ′ ЛЕС *м.* лес. Лубень Стаўбц. Мін.
КУЛЯЧКЫ′ *мн.* урочышча. Бельск (704) Кобр. Брэсц.
КУЛЯШО′ЎШЧЫНА *ж.* урочышча. Калодзецкая (628) Касц. Маг.
КУМА′ *ж.* рэчка. Купіск Нав. Гродз.
КУМЕ′ЛІНА *ж.* паша. Лаздуны Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Kumẽlina 'т. с.' (КЛГН) < kumẽlė 'кабыла'.
КУМЕЛІ′НА *ж.* урочышча. Кемялішкі (138) Астр. Гродз., гл. КУМЕ′ЛІНА.
КУ′МКАВА *н.* балота. Заазер'е Віл. Мін.
КУ′МПОЛ *м.* урочышча. Курына (127) Віц.
КУМПЯ′К *м.* сенажаць. Лаздуны Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Kum̃pis 'т. с.' (КЛГН) < kum̃pis 'бядро'.
КУМЯ′ЛІНА *ж.* сенажаць. Лаздуны Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Kumẽlinė, Kumelìnė назвы балота, Kumelýnė назва лагчыны (КЛГН) < kumẽlė 'кабыла' і суфікс -іна.
КУ′НАЕДЗЬ *ж.* лес. Там только воўкі велісь (інфарм.). Малыя Аўцюкі Калінк. Гом.
КУ′НДЫЛЮВ РЫГ *м.* паша і зараснікі алешніку. Сіманавічы Драг. Брэсц.
КУНЁТКІ *мн.* поле. Зуі Стаўбц. Мін.
КУНЁЎШЧЫНА *ж.* поле. Жукаў Барок Стаўбц. Мін.
КУНО′ПЫЛЬКА *ж.* урочышча. Аса (954) Малар. Брэсц.
КУНЯ′ЎКА *ж.* поле і рэчка. Ністанішкі Смарг. Гродз.
КУ′ПА *ж.* сенажаць дрэнная (інфарм.). Зарачанне (101) Пол. Віц.; урочышча. Мосін (647) Хоц. Маг.

КУПАВЯ′ДЗЬ *ж.* урочышча. Малыя Аўцюкі (886) Калінк. Гом.

КУПА′ЛІШЧЫ *мн.* яма з вадой. Каўняцін Пін. Брэсц.

КУПА′ЛЯ *ж.* сажалка. Брашэвічы Драг. Брэсц.

КУПАНІ′НА *ж.* урочышча. Дубай (773) Стол. Брэсц.

КУПА′ТЫ СТРУВО′К *м.* балота. Дарапеевічы Малар. Брэсц.

КУ′П'Е *н.* поле і сенажаць, дзе раней было балота (інфарм.). Навасёлкі Кам. Брэсц.; сенажаць і паша. Сцяцкі Стаўбц. Мін.; урочышча. Нагародавічы (403) Дзятл. Гродз., Падарэссе (533) Ст.-дар. Мін.

КУПЕ′ЛІНА *ж.* лужына. Месца, дзе не высыхае вада (інфарм.). Палік Барыс. Мін.

КУПЕ′ЛІШЧА *н.* паша і лес. Ругаец Стаўбц. Мін.; лес, дзе была смалярня. Міхеевічы Бярэз. Мін.; урочышча. Ноў (134) Лёзн. Віц.

КУПЕ′РЧЫН КУТО′К *м.* поле. Радастава Драг. Брэсц.

КУ′П'Ё *н.* сенажаць і паша. Слабодка Зал. Стаўбц. Мін.

КУПІНА′ *ж.* балота, дзе многа куп'я. Лунін Лун. Брэсц.; асушанае балота. Гічыцы Івац. Брэсц.

КУ′ПІСТА *ж.* урочышча. Гольчыцы (496) Слуцкі Мін.

КУ′ПІСТАЯ *ж.* урочышча. Нагародавічы (403) Дзятл. Гродз.

КУ′ПІШЧА *н.* урочышча. Лаўцы (48) Глыб. Віц.

КУ′ПЛЕНІЦА *ж.* поле. Азарычы Пін. Брэсц.

КУПЛЁНКА *ж.* урочышча. Ноў (134) Лёзн. Віц.

КУПЛЁНЫ ЛЕС *м.* лес. Ністанішкі Смарг. Гродз.

КУПЛЁНЫЯ *мн.* урочышча. Амхінічы (576) Чав. Маг.

КУ′ПЛІНСКІЯ РАСКО′СЫ *мн.* сенажаць. Белавічы Бярэз. Мін.

КУ′ПЛІШЧА БЛІ′ЗШАЯ і ДА′ЛЬШАЯ *н.* хмызняк. Ячонка Стаўбц. Мін.

КУ′ПНІК *м.* поле і паша. Казейкі, Залоззе Стаўбц. Мін.; урочышча. Навасёлкі (327) Бял. Маг., Паляшыцы (332) Гор. Маг.

КУ′ПНІКІ *мн.* сенажаць, дзе многа куп'я. Пагарэлае Стаўбц. Мін.

КУ′ПНІЦА *ж.* балота, зарослае кустамі. Дразды Стаўбц. Мін.

КУПОВА′ТНЫК *м.* урочышча. Відомля (659) Кам. Брэсц.

КУ′ПСТАС *м.* гара пясчаная. Бабровічы Іўеў. Гродз.; параўн. літ. Kùpstas 'т. с.' (КЛГН)<kùpstas 'купіна'.

КУ′ПЧА *ж.* поле, купленае калісьці ў пана (інфарм.). Еўлашы Ів. Брэсц.; поле. Рудня Астравітая Чэрв. Мін.; урочышча. Карытнае (532) Асіп. Маг., Вольніца (816) Глускі Маг., Багуцічы (1002) Ельскі Гом.

КУ′ПЧАЯ *ж.* урочышча. Проскурні (895) Жлоб. Гом.

КУ′ПЧЫ *мн.* поле. Валожын Мін.; параўн. літ. kùpsčiai 'куп'ё' (СЛМ, VI, 937), Kupcià<Kupščià назва гары (КЛГН), Kupčiavietes назва поля (КЛГН)<kùpti 'паднімацца'.

КУ′ПША *ж.* урочышча. Ніжнія Жары (1027) Камар. Гом.

КУ′ПЫ *мн.* лес. Рудня Чэрв. Мін.

КУ′ПЫНА *ж.* возера. Паніквы Кам. Брэсц.

КУПЯ′ЦІНА *ж.* балота купністае. Ялуцавічы Бар. Брэсц.

КУРА′ВШЧЫНА *ж.* урочышча. Хмелева Кам. Брэсц.

КУРАНІ′ *мн.* урочышча. Вязаўніца (521) Асіп. Маг.

КУРА′ПЫЎШЧЫНА *ж.* урочышча. Калодзецкая (628) Касц. Маг.

КУРАЧО′Ў ЕЛЬ *м.* лес. Паўз раку Пагашчанку пад Кукарава (інфарм.). Пагост Бярэз. Мін.

КУРБА'ТЫЯ *мн.* урочышча. Сялец (608) Мсцісл. Маг.

КУРГА'Н *м.* поле. Вічатарова, Стары Свержань Стаўбц. Мін.; поле, дзе пахаваны загінуўшыя ў час бою (інфарм.). Сычы Брэсц.; поле неўрадлівае. Філевічы (353) Шчуч. Гродз.; поле, дзе раней была сенажаць і бярэзнік. Намакрава Лун. Брэсц.; палянка і курган у лесе. Дзяніскавічы Ганц. Брэсц.; сенажаць. Белавічы, Міхеевічы Бярэз. Мін.; зараснік. Мурава Бярэз. Мін.; узгорак жвырысты, казалі, што ад французаў астаўшысі (інфарм.). Мярэцкія Глыб. Віц.; балота. Мокрава Лун. Брэсц.; урочышча. Курына (127) Віц., Ляхавічы (393) Нав. Гродз., Грыцкевічы (383) Зэльв. Гродз., Якшыцы (514) Бярэз. Мін.

КУРГАНІ'СТАЕ *н.* возера. Казлы Міёр. Віц.

КУРГА'НКА *ж.* узгорак, сучасныя могілкі на месцы старадаўніх, дзе знаходзяць многа керамікі і каменных прылад працы (інфарм.). Сіманавічы Драг. Брэсц.

КУРГА'НКІ *мн.* поле. Гайна Лаг. Мін.

КУРГА'ННЕ *н.* поле і курганы часоў вайны са шведамі (інфарм.). Міхеевічы Бярэз. Мін.; месца, дзе курганы, у якіх пахаваны туркі (інфарм.). Ліцвінавічы (601) Карм. Гом.; урочышча. Дакучын (275) Круп. Мін., Ачыжа (516) Чэрв. Мін.

КУРГА'ННЯ *н.* поле. Прылессе (611) Чав. Маг.; урочышча. Нічыпаравічы (326) Шкл. Маг., Валосавічы (924) Чач. Гом.

КУРГАНО'ЎСКАЕ ПО'ЛЕ *н.* поле, дзе быў пасёлак Курганы. Навасёлкі Мядз. Мін.

КУРГА'НСКА У'ЛІЦА *ж.* вуліца, утвораная жыхарамі вёскі Горталь, якія часова перасяляліся ў Курганскую вобласць (інфарм.). Горталь Івац. Брэсц.

КУ'РГАНЫ *мн.* урочышча. Вольніца (816) Глускі Маг.

КУРГА'НЫ *мн.* урочышча. Слаўкавічы (823) Глускі Маг., Сіманічы (983) Лельч. Гом.

КУРГАНЫ' *мн.* поле. Рубяжэвічы Стаўбц. Мін., Вілейка Мін., Следзюкі (586) Бых. Мін.; паша, дзе знаходзяцца магілы шведаў (інфарм.). Лумна Кам. Брэсц.; сенажаць, завуць так пожню таму, што там пагурачкі, як магілкі (інфарм.). Мярэцкія Глыб. Мін.; лес, дзе многа ўзгоркаў, а слова «курган» у гаворцы вёскі ўжываецца ў значэнні 'невялікі ўзгорак'. Дзеткавічы Драг. Брэсц.; урочышча, дзе быў пасёлак Навасёлкі. Мядз. Мін.; урочышча. Мельканавічы Слон. Гродз., Мялешкавічы (980) Маз. Гом.; Палессе (872) Светл. Гом.

КУРГАНЭ' *мн.* урочышча. Іванкавічы (416) Бар. Брэсц.

КУРІ'ННЕ *н.* поле і частка вёскі. Дарапеевічы Малар. Брэсц.

КУРІ'ЧІШЧЭ *н.* сенажаць і балота. Сінкевічы Лун. Брэсц.

КУРМА'НАЎСКІ ЛЕС *м.* лес каля вёскі Курманава. Цёмны Лес Горкі Маг.

КУРМА'НКА *ж.* урочышча. Клетнае (819) Глускі Маг.

КУ'РНІК *м.* лес, дзе растуць вялікія сосны. Мясцовасць, якая пасля пажару доўга курэла (інфарм.). Сенькавічы Івац. Брэсц.

КУРО'ВІШЧА *н.* поле, якое цяпер засадзілі лесам. Там калісь вуглі курылі (інфарм.). Жыдзевічы Іўеў. Брэсц.

КУРО'СТОВЭЦЬ *м.* поле, вельмі неўрадлівае. Брашэвічы Драг. Брэсц.

КУ'РОШ *м.* сенажаць і лес. Манасеева Лун. Брэсц.

КУРСА' *ж.* сенажаць. Шавярнічы Бярэз. Мін.

КУ'РЦАВА *н.* урочышча. Залессе (43) Глыб. Віц.

КУ'РЦІНАЯ *ж.* сенажаць. Посаль Іўеў. Гродз.; параўн. літ. дыял. Kurcinoji, літар. Kurtinoji 'т. с.' (КЛГН)<kurtinoji 'глухая'.
КУРЧА'НІШЧА *н.* урочышча. Лазічы (44) Глыб. Віц.
КУРЧЫ' *мн.* урочышча. Месяцічы (772) Пін. Брэсц.
КУРШУНЫ' *мн.* урочышча. Заазер'е (291) Бял. Маг.
КУРЫ'ЛАВА ГРАДА' *ж.* урочышча. Ямінск (821) Люб. Мін.
КУРЫ'ЛАЎШЧЫНА *ж.* урочышча. Старыя Цярушкі (784) Староб. Мін.
КУРЫ'НЫ МО'СЦІК *м.* балота, праз ручаіны ляжалі кладкі (інфарм.). Навасёлкі Мядз. Мін.
КУРЫ'НЫСТЫЙ БАГО'Н *м.* урочышча. Дубіца Брэсц.
КУ'РЫЦКЫЙ *м.* лес. Брашэвічы Драг. Брэсц.
КУРЭНЦЭ' *мн.* сенажаць. Бастынь Лун. Брэсц.
КУРЭ'НЬ *м.* поле. Міхеевічы Бярэз. Мін.
КУРЯКІ' *мн.* сенажаць. Шэкі (302) Дубр. Віц.
КУР'Я'НАЎСКА БАЛО'ТА *н.* балота каля вёскі Кур'янава (інфарм.). Мярэцкія Глыб. Віц.
КУРЯНІ' *мн.* поле. Радастава Драг. Брэсц.
КУ'СНЭ *н.* поле. Радастава Драг. Брэсц.; параўн. літ. дыял. kūsniai, літар. kąsniai 'кавалкі'.
КУ'СТАВА *н.* урочышча. Карпаўцы (348) Бераст. Гродз.
КУСТА'РНІК *м.* паша. Баравікі Стаўбц. Мін.; хмызняк. Курачкі Стаўбц. Мін.; урочышча. Сакавічы (179) Смарг. Гродз.
КУ'СТАЎЯ *н.* урочышча. Рожна (234) Леп. Віц.
КУ'СТОЎЕ *н.* урочышча. Купяцічы (769) Пін. Брэсц.
КУСТЫ' *мн.* урочышча. Яроміна (131) Віц.
КУСТЭ' *мн.* сенажаць. Курчаўцы (352) Рад. Гродз.; урочышча. Куклічы (673) Свісл. Гродз.
КУСЦЕ' *мн.* урочышча. Тышкавічы (726) Брэсц.
КУ'СЦІКІ *мн.* паша. Вараксы, Янкавічы Стаўбц. Мін.
КУ'СЬНІК *м.* зараснікі лазы, арэшніку. Журавок Бярэз. Мін.
КУСЬЦЯ'РНІКІ *мн.* урочышча. Утканы (146) Вор. Гродз.
КУТ *м.* поле. Рудня Чэрв. Мін., Зарэчча Стаўбц. Мін., Горск Бяроз. Брэсц., Альхоўка Нав. Гродз.; сенажаць. Шашкі Стаўбц. Мін.; паша. Кунашы Стаўбц. Мін.; балота. Есенавіца (385) Ваўк. Гродз.; урочышча. Мяжно (74) Пол. Віц., Гарадзец Кобр. Брэсц.
КУ'ТНЯ БАЛО'ТО *н.* балота. Альхоўка Нав. Гродз.
КУ'ТНЯЯ БАЛО'ТА *н.* балота. Альхоўка Нав. Гродз.
КУТО'К *м.* поле. Трылес Стаўбц. Мін., Трасцянка Пін. Брэсц.; сенажаць. Дразды Стаўбц. Мін.; поле і хутары. Жыгалкі Стаўбц. Мін.
КУТО'КА *ж.* поле, якое знаходзіцца ў кутку паміж пашай і лесам (інфарм.). Галоўчыцы Драг. Брэсц.
КУТО'ЦКІЯ *мн.* поле каля лесу. Рудня Астравітая Чэрв. Мін.
КУТ ПО'ЛЯ *н.* поле, якое ўпіраецца ў лес і ўтварае як бы кут. Ужо жнуць жыто ў Кут Полі (інфарм.). Тартакі Бар. Брэсц.
КУТЫ' *мн.* поле. Судзевічы Стаўбц. Мін.; поле, дзе быў лес. Заброддзе Стаўбц. Мін.; сенажаць. Барыскі Лаг. Мін., Паляцкішкі Вор. Гродз.; паша. Ніўнае, Трылес Стаўбц. Мін.; урочышча. Шчаперня (61) Пол. Віц., Лабуноўшчына (78) Уш. Віц.
КУТЭ'ЛЬНЯ *ж.* лес. Дубіца Брэсц.
КУТЯ' *ж.* балота. Радзеж Малар. Брэсц.
КУТЯ'ТЫНЫ *мн.* урочышча. Дубіца Брэсц.

КУ'ХЭНЬКА *ж.* лес, дзе стаяла кухня (інфарм.). Боркі Бяроз. Брэсц.

КУЦЕ'ЧАК *м.* поле, сенажаць і лес. Насалі Стаўбц. Мін.

КУЦЕ'ЧКІ *мн.* поле, паша і хмызняк. Гнецькі Стаўбц. Мін.

КУЦЁЛ *м.* урочышча. Парэчча (731) Лагіш. Брэсц.

КУ'ЦІНО *н.* балота. Гошчава Івац. Брэсц.

КУЦО'БІНА *ж.* урочышча. Гусарка (642) Клім. Маг.

КУЦУВЫ'ГАР *м.* урочышча. Лазукі (264) Чаш. Віц.

КУ'ЦЯВА ЗА'ЛЕЖ *ж.* урочышча. Гірск (699) Кобр. Брэсц.

КУ'ЧА ГОЛЛЯ' *ж.* лес сярод балота. Сухоўчыцы Кобр. Брэсц.

КУЧАРПОЖА'Р *м.* урочышча. Юндзілавічы (709) Руж. Брэсц.

КУ'ЧКІ *мн.* частка вёскі. Ператокі Стаўбц. Мін.

КУЧНЯРЭ'ЎСКАЕ *н.* возера. Казлы Міёр. Віц.

КУЧЫ'НШЧЫНА *ж.* урочышча. Белая (209) Плешч. Мін.

КУШНЕРО'ВО *н.* поле. Стары Востраў (518) Кліч. Маг.

КУШЧО'ЎКА *ж.* урочышча. Рудня Марымонава (920) Лоеў. Гом.

КУЯ'ВЕЦ *м.* урочышча. Глушкавічы (978) Лельч. Гом.

КЫЙ *м.* балота. Турная (723) Івац. Брэсц.

КЫМАРО'ВА БАЛОТА *н.* балота. Завад Віравая (623) Слаўг. Маг.

КЫМАРО'ЎШЧЫНА *ж.* урочышча. Бабінавічы (298) Лёзн. Віц.

КЫМЛУ'ШКА *ж.* сенажаць. Дзеткавічы Драг. Брэсц.

КЫПШІ' *мн.* поле. Гошава Драг. Брэсц.; параўн. літ. kìpšas 'нячысцік'.

КЫРБА'НЫВА *н.* урочышча. Гусарка (642) Клім. Маг.

КЫРМА' *ж.* урочышча. Зоры (619) Крыч. Маг.

КЫРЧЫВА'ХА *ж.* урочышча. Дасавічы (580) Маг.

КЫТЛЯРО'ЎШЧЫНА *ж.* завулкі за лагчынаю. Гусаркі (642) Клім. Маг.

КЭРЭ'ЛОВКА *ж.* поле. Радастава Драг. Брэсц.

КЯ'ВЕР *м.* урочышча. Запясочча (808) Тур. Гом.

КЯРНАВА' *ж.* поле і вёска. Смаргонь Гродз.; параўн. літ. Kernavẽ назва населенага пункта (КЛГН) < kernavẽ 'топкае месца ў лесе, на лузе'.

## Л

ЛАБАБРЭ'ЕВА ПО'ЛЕ *н.* поле, дзе Лабабрэі жылі (інфарм.). Мішневічы Шум. Віц.

ЛАБА'НАЎКА *ж.* урочышча. Чапеліна (303) Арш. Віц.

ЛАБАНЁЎКА *ж.* урочышча. Якушонкі (96) Езяр. Віц.

ЛАБАЧО'ЎКА *ж.* частка вёскі. Старына Стаўбц. Мін.

ЛАБАЧО'ЎШЧЫНА *ж.* урочышча. Навасёлкі (458) Лях. Брэсц.

ЛАБО'ЎКАВЫ ПО'ЖНІ *мн.* сенажаць. Хвасты (9) Брасл. Віц.

ЛА'БУСАЎ МОХ *м.* балота. Альхоўцы Лях. Брэсц.

ЛАБЯКІ' *мн.* урочышча. Барсукі (28) Міёр. Віц.

ЛА'ВДЫК *м.* частка вёскі. Брашэвічы Драг. Брэсц.

ЛА'ВІЦА *ж.* лес баравы. Дзяніскавічы Ганц. Брэсц.

ЛА'ВЫ *мн.* поле, вялікі роўны абшар. Рубяжэвічы Стаўбц. Мін.; лес. Вараксы Стаўбц. Мін.; урочышча. Лазукі (264) Чаш. Віц., Ліцвінавічы (601) Карм. Гом.

ЛАВЫ' *мн.* поле і лес. Турная (723) Івац. Брэсц.

